
Жыць і мець надзею! → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Партрэты ў музеі → 4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 02 (3218) Год LXIII | Беласток, 14 студзеня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Крыху пра Плюцічы

**Можна сказаць, што зараз летнія дні бываюць не толькі ў традыцыйную пару года. Вось такі летні дзень здарыўся, здавалася б, у разгар зімы — 30 снежня. Праўда, толькі тэмпература была не надта летняй, трава не надта зялёнай, але ўсё апошняе можна лічыць летнім. Вось у той дзень пакарыстаўся я глабальным ацяпленнем і рушыў байкам у тое наша наваколле, дзе ўжо даўно не прыходзілася мне бываць.**

З поезда злез у Страблі. У Страблі ўжо выгадны чыгуначны перон — такі, якіх яшчэ няма нават у Беластоку. Перон там на ўзроўні падлогі поезда. Выгадна гэта традыцыйным пасажырам, але выгадна і байкеру, паколькі не трэба змагацца з даволі нявыгадным уношаннем веласіпеда. Чыгуначныя ўлады абяцаюць абнаўленне прыпынкаў між Беластокам і Чаромхай, дык магчыма, што і пероны там будуць узняты на прыстойны ўзровень...




Вулічны крыж пры адгалінаванні дарогі ў Страблю

Са Страблі пакаціў я ў напрамку Плюціч. На акраіне Страблі яшчэ высяцца тэрыконы старых шпалаў, яшчэ яны не расходаваны для новых іх мэт. Абочына дарогі са Страблі ў Плюцічы явіцца прыкладам сучаснага варварства. Менавіта прадстаўнікі пароды *homo sapiens*, за якімі, здавалася б, павінна быць нейкая гуманнасць, карыстаючыся сучаснай тэхнікай, люта пакалечылі прыдарожную расліннасць. Гуманнасць, на гэты момант, заўважыла ўжо прадстаўнікоў жывёльнага свету, але раслінны свет яшчэ не заўважаны. Менавіта тое кустоўе, што асмелілася вырасці на абочыне дарогі паміж згаданымі мясцовасцямі, бязлітасна пакалечана. Нейкая машына, якая, мабыць, мела правесці высечку прыдарожных кустоў, некаторыя з тых кустоў парвала, некаторыя абдзерла з кары. Калі б гэтая высечка адбывалася традыцыйным спосабам, дык мабыць з дапамогай сякеркі ці пілы тыя кусты не былі б прымушаны доўга канаць у сваіх раслінных муках. Магчыма, што ў раслін няма рэцэптараў болю, але таксама магчыма, што яны ўсё ж такі ёсць...

У Плюцічах дарога са Страблі сыходзіцца з вуліцай і побач гэтага злучэння заўважаю добра відочны мармуровы крыж у белай агародцы. Тры сценкі з балясаў традыцыйнай вышыні, затое чацвёртая, ад фронту — нізенькая. Такая канструкцыя нічым не засланяе прашальнага надпісу. І гэта добра, бо цяпер кожны мінак, якому алфавіт надпісу не экзатычны, даведваецца пра той стымул, за якім аб'ект быў пастаўлены. А гэта і кусочак гісторыі, і кусочак духоўнасці.

Даўно я ўжо быў у Плюцічах і штосьмне не помніцца, каб я той крыж заўважыў, бо ж раней ён зусім не кідаўся ў вочы. Паводле надпісу крыж быў пастаўлены ў 1959 годзе, абноўлены ў ліпені 2010 года, а выкананы ў чэрвені 2010 года. Логіка тут загадкавая, але вера шчырая...

Ранішняя пара і пажылыя людзі нашых вёсак высыпаюцца на вуліцу ў чаканні аўтакрамаў. Вось і насустрач мне паказаўся мужчына, якога я спытаў, ці ў Плюцічах ёсць яшчэ падобныя крыжы. І паінфармаваў ён мяне, што адзін крыж знаходзіцца за вёскай, па мяжы палёў і паш. Падаўся я туды.


Элементы народнага дэкору

І сапраўды, паміж бярозай і сасной абгароджаны традыцыйнай у нас агарожай, красаваўся даўнейшы крыж. А на ім надпіс: „Сей кресть сооружень за спасение скота крестьянами дер. Плютичи июня 9 д. 1913 г.”. Чаму менавіта там такая дата, не ўдалося мне ўцяміць. Здавалася б, што дата тая павінна супадаць з днём памяці тых святых, якія маюць клапаціцца за хатнюю жывёлу, асабліва мова тут пра святога Аўласа. Аднак яго ўшаноўваюць 24 лютага, а ў 1913 годзе ў тую пару жывёл на пашу не выводзілі; у наш кліматычны час можа і вывелі б, але тады, відаць, паставілі крыж папросту ў пару выгану жывёлы...

Падаюся назад у вёску і бачу кусцік, на якім красуецца некалькі румяных яблыкаў. Вось і надумаў я прыхапіць сабе адзін, але ж убачыў, што яны прычэплены на той куст на нітачках, гэтак жа, як калісь чаплялі яблыкі на святочную ёлку разам з іншымі аздобамі: папяровымі анёлкамі, каляровымі папяровымі ланцужкамі, свечкамі ў адмысловых дзяржальніках і г.д.

У цэнтры Плюціч стэнд з даведкай пра вёску. Першыя захаваныя звесткі пра яе паходзяць з 1576 года. «З канца XIX ст. у вёсцы дзейнічала пачатковая школа, аднак у міжваенны перыяд дзеці разам з іх бацькамі беспаспяхова дамагаліся стварэння беларускай школы. У першыя гады пасля II Сусветнай вайны жыхары вёскі стварылі атрады самаабароны, каб забяспечыць вёску ад нападаў рабаўнікоў і аддзелаў падполля. Існуюць дзве гіпотэзы, якія датычаць паходжання назвы вёскі. Паводле першай, у вёску калісьці наведаўся вайсковец «плютановы». Ён спадабаўся жыхарам, таму тыя рашылі даць назву мясцовасці ў яго гонар. Паводле другой — назва вёскі паходзіць ад слова «плюта», што значыць асобу надта гаваркую. Назва магла б такім чынам падкрэсліць адкрытасць жыхароў. (...) У Плютычах жыве багата народных творцаў. Многія дамы аздобленыя драўлянымі арнаментамі, якія выразаюцца некалькімі гаспадарамі. На верхавінах хатаў часта змешчаныя выявы коней, якія сталі своеасаблівым адметным знакам вёскі. За ўнутраную аздобу адказваюць жанчыны: вышываюць прыгожыя сурвэткі і абрусы ды робяць кручком».

Заўважаю крыж з пастаментам з палявога каменя. Пытаю пажылога мужчыну, што пад'ехаў байкам.

— Мабыць тут быў канец вёскі, бо крыжы на канцах вёсак стаўлялі, — мяркуе. І зараз пытае:

— Бацька можа ральніцтвам займаецца? Бо я маю трактар трыццатку...

Па дарозе з Плюціч у Храбалы абапал дарогі такі ж краявід, як і па дарозе ў Плюцічы са Страблі...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**





# Святочныя развагі 2018

Таталітарныя краіны заўсёды славіліся анекдотамі. Вельмі трапныя, з глыбокім і тонкім гумарам яны пасля кожнай знакавай падзеі або пэўнага перыяду часу выраcталі як грыбы пасля дажджу. Прыкладам, калі год быў багаты на здарэнні, то на святкаванне Новага года з'яўляўся анекдот, які адным радочкам дасканала падсумоўваў падзеі старога года намнога больш змястоўна, чым бясконцыя прамовы афіцыйных дзяржаўных агітатараў.

Менавіта таму напрыканцы мінулага года я ўсе вочы праглядзеў у сацыяльных сетках, шукаючы такі ўзор народнай творчасці на беларускую тэматыку. А яго ўсё не было. Я ўжо пачаў пралічваць, што сталася: ці палітычны лад змяніўся, ці ўвесь народ куды падзеўся? Ажно не, нічога не памянялася ні з народам, ні з палітычным ладам, бо анекдот з'явіўся. На першы погляд нейкі ён крыху не зусім з нашым менталітэтам, можа перароблены з якога іншага, але ж з'явіўся, прычым у сацыяльных сетках, як і мае быць у наш час, з прыгожым малюнкам, дзе Святы Мікола трымае на каленях дзіцятка і выпытвае ў таго яго калядныя пажаданні.

Ну дык вось пытаецца Святы Мікола ў маленькага беларускага патрыёта, якое б той хацеў, каб збылося святочнае пажаданне.

— Я хачу Беларусь ад мора да мора, — кажа маленства.

— Слухай, — збянтэжана прапаноўвае Святы Мікола, — можа лепш пажадай штонебудзь больш рэальнае.

— Ну тады хачу, каб памянялася ўлада.

Святы Мікола пачухаў патыліцу, цяжка ўздыхнуў ды пытае:

— Дык ад якога да якога мора ты хочаш?

Я падумаў, што анекдот слабаваты, але мае права на жыццё. Крыху смешны, хоць хацелася б смяшней, крыху жыццёвы, хоць і тут не зусім, хоць і нерэальны, але ж лёгкую ўсмешку выклікае. Гэта я так падумаў. І ўсе дарослыя, якім я яго распавядаў, менавіта так яго і ўспрымалі. За святочным сталом нават пачалася жартаўлівая спрэчка, што зрабіць прасцей — мець Беларусь ад мора да мора, ці памяняць уладу. І чым больш спрачаліся, тым больш схіляліся да думкі, што абодва варыянты на сённяшні момант безнадзейныя. А вось адзін школьнік, які падышоў да святочнага стала, каб адпрасіцца ў бацькоў пакінуць хату і пайсці паглядзець святочны салют, вельмі здзівіўся нашаму песімізму.

— А што вы тут бачыце немажлівага, — пацінуў ён плячамі. — Увойдзе Беларусь у Еўропу і будзе мець тыя моры.

Дарослыя сціхлі і моўчкі сталі перапрацоўваць атрыманую інфармацыю. Хлопчык таксама стаяў ціха. Але на гэтую тэму, што дарослыя, нават і не думаў, толькі чакаў, ці пусцяць яго бацькі паглядзець салют ці не.

— Слухайце, як усё проста, — нарэшце вымавіў адзін. — Паглядзіце, якое ў нас мышленне закасцянелае. Мы адразу думаем пра пашырэнне тэрыторыі. А вось гэты чалавек з новага пакалення прапанаваў зусім іншую формулу для рэалізацыі гэтага пытання. І яно ўжо здаецца простай рэччу. Уваходзім у Еўрасаюз і як усе еўрапейцы маем мора з трох бакоў.

— Ну не так тут усё проста, — заківаў галавой другі дарослы, — бо з гэтай уладай у Еўрасаюз мы ніколі не патрапім. Так што Святы Мікола з анекдота мае невырашальную праблему.

І спрэчка за святочным сталом разгарэлася зноў. Ну як жа ж тут без спрэчак. Тут зусім не важна, ці падымаецца пытанне глабальнага маштабу, ці несур'ёзны жарт, пакольні ўсё набывае маштаб дзяржаўных разваг, хоць ніколі не мае лагічнага завяршэння. Праўда, гэтым разам, атрымаўшы ад школьніка ўзор нестандартнага мыслення, то і дарослыя паспрабавалі разважаць ад адваротнага. Таму прагучалі не толькі версіі, ці трэба мяняць, ці не трэба мяняць уладу, але і дзе мяняць, у нас, ці ў Еўрасаюзе. Падабраліся нават да версіі, што каб нам увайсці ў Еўропу, уладу трэба змяніць і там, і там. Хоць і гэтая версія аказалася прамежкавай, бо пасля зышліся на тым, што для таго, каб Беларусь была ад мора да мора, уладу трэба памяняць у Расіі. Пазней і гэтую ідэю забракавалі як немажлівую і прыйшлі да высновы, што спытаць трэба ў таго школьніка, бо гэта ж ён правільна адказаў на першую палову.

Але яго ўжо не было. Не дачакаўшыся дазволу, ён пайшоў глядзець салют і без яго. А я злавіў сябе на думцы, што яшчэ мінулым годам размовы за святочным сталом былі зусім на іншыя тэмы.

Віктар САЗОНАЎ

# Залаты нос

Жыў даўно таму вучоны чалавек. У яго быў залаты нос, крэпкая галава і ясны розум. На жаль, ён занадта часта турбаваў яго алкагольнымі выпарваннямі. Ён быў шалапут, гуляка і просты валацуга. Але таксама начны працаголік. Не без падстаў, у рэшце рэшт, стаў несмяротным членам эксклюзіўнага пазачасавага клуба геніяў, якія з'яўляюцца ў кожным пакаленні, але занадта рэдка, каб гэта мела які-небудзь уплыў на лёсы свету. Яго звалі Ціха Брагe. Свой жывы нос страціў у дурным мячным паядынку з юным аднагодкам за тое, хто з іх лепшы матэматык. Абодва з іх, аказалася, матэматыкамі былі слабымі. А наш залатаносы муж цікавіўся вышэй за ўсё зоркамі. Ён вывеў астраномію з астралогіі, даючы ёй надзейную навуковую аснову для разумення космасу і самога чалавека, які ўсё ж з'яўляецца яго перыферыйнай часткай. Іншая справа, што з-пад абаяння астралагічнага шарлатанства ніколі ён не вызваліўся, так як і сучасны яму Галілей, Капернік і Кеплер ці крыху пазнейшы Ньютан. Яна такая, чалавечая прырода, незалежна ад таго, ці простага чалавека, ці генія, што цёмныя бакі ведаў лучыць са светлымі, адвольна, як і веру з рацыянальным розумам, а таксама эгаістычныя перакананні з аб'ектыўнай праўдай.

Будучы багатым чалавекам, Ціха Брагe вырашыў справіць сабе нос з залатой бляхі. Дурэў днём, баламуціў жанчын, кпіў над сабратамі, але ноччу ўзіраўся праз прымітыўны тэлескоп на зоркі. Пэўна, яго залаты нос адлюстроўваў іх мяккае святло, зіхацеўшы ў цемры як паходня розуму. Дзіўным чалавекам быў. Шалапутным і безразважным днём, а ноччу вельмі сур'ёзным. Паміраючы, ён казаў сведку ягонай агоніі, славутаму матэматыку Кеплеру, які пасля матэматычна распрацаваў ягоныя астранамічныя назіранні: «Не дазваляй, каб мне здавалася, што я жыў... дарэмна!». Паўтарыў гэта некалькі разоў. Шмат раз адрокся перавагі самага вучонага чалавека, аддаючы прыярытэт навуцы. Ісціне. Трэба прызнаць, што гэта нячастае — такая сціпласць у чалавеку. Людзі ўвесь час (і не абавязкова толькі ў пераносным сэнсе) губляюць свае насы ў дурных баях за перавагу. Любою, абы толькі «маё» было «зверху».

Аб перавазе Каляд на Вялікаднем было напісана вельмі шмат. Здаецца, што калядны варыянт даўно адтрубіў сваю перамогу. Але «велікодныя» заўзятары ніколі не падпісалі акту аб безагаворачнай капітуляцыі. Жывуць так, быццам нічога не здарылася, пакорліва і незаўважна, у катакомбах сваіх чэрапаў вырошчваючы перавагу ўласных рацый над рацыямі працівнікаў. Актывізуюцца, аднак, заўсёды падчас святаў Вялікадня і, што цікава, атрымліваюць прызнанне сярод многіх раней абвешчаных «калядніакаў». Прыхільнікі калядак раптам папярхаюцца слінкай, убачыўшы пасвячаныя яечкі. А тыя велікодныя бабкі, стаўбуняcтыя «сукачы», белыя каўбасы... Эх, няма што спрачацца. Вялікдзень — вялікі! І гэтак далей круціцца тая святочная «вайна», пастаянна, няўмольна, бязлітасна. Толькі нейтральнае ў адносінах да святаў лета гасіць антаганізмы. Да Каляд кавалак часу. Яшчэ больш да Вялікадня. А тут зборураджаю. Хто мае галаву да бяздзейных спрэчак? Гэта не азначае, аднак, што лета гасіць любыя звады. Прычын зацятасці, мабыць, столькі ж, колькі душ чалавечага насельніцтва. Бо ў кожнага чалавека свая слушная рацыя, непахіснае перакананне, свой незаменны пункт гледжання. Такім чынам, маем невычэрпны запас шматвяковай спрэчкі пра перавагу юліянскага календара над грыгарыянскім, праваслаўя над каталіцызмам ці пратэстантызму над ісламам. Пра канфлікт будызму з брахманізмам, ці іх віднаму саюзу супраць крышнаітаў толькі ўспомню. А пра атэістаў змаўчу. А ў нас яшчэ ёсць у запасе надзейная палітыка. Ну, гэта поле жорсткай беспярапыннай барацьбы, незалежнай ад часу і абставін. Памятаем славутую вайну ГП з ПіСам. Калі партыя Туска яе прайграла, паказалася тое, што мела паказацца. ПіС цяпер захапляецца сваім залатым носам, і ГП не можа пазбыцца хранічнага насмарку, капаючага гарачай вадой з крана. Хто прайграў?

Усе чалавечыя пакаленні, ад перадгісторыі да сучаснасці, не спыняюцца ў бітвах. Забіваюцца або толькі сварацца, смяртэльна раняць адзін аднаго або лаюцца. Не гаснуць кастры, нараджаюцца новыя інквізітары і ахвяры чалавечай дэмагогіі. Не спыняецца скрыгат палітычнай зброі: ідэалогіі, светапоглядаў, дактрын. Мір — толькі прамежак паміж войнамі. У час чарговага інтэрвалу паміж свяшчэннымі войнамі, патрабую аднаго: «Не можам дазволіць, каб нам здалося, што наша жыццё пайшло дарма»...

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Новыя старыя гады!

Жыццё і бурлівыя падзеі вельмі хутка адмяняюць нашы планы. Таксама здарылася і з задуманым мною для гэтай рубрыкі фельетонам, які меў мець святочна-навагодні характар і прысвячаўся традыцыі вэнджаных вясковых каўбас, бачкоў, паляндвіц і шынак на святочным стале. Зразумела, справа зараз мае сур'ёзны кантэкст, значыць, афрыканскую чуму свіней. Маем затым катастрафічны недахоп вясковых паршукоў, якіх проста забаронена гадаваць на ўласныя патрэбы. Каб набыць зараз добрае мяса для вырабу хатніх вяндлін, то, напрыклад, у Гайнаўцы трэба было запісацца як мінімум на цэлыя тры тыдні раней у мясцовых мяснікоў. Ну што ж, гэта яшчэ тут той выхад, калі маем грошы і спраўную вяндлярню на сваім, або суседскім панадворку. Але калі ў хатнім бюджэце тугавата з фінансамі, тады прыходзіцца абысціся смакам і ўспамінам пра мінулае, рытуальнае калонне свіней.

Зараз адыходжу ад святочных разважанняў і засяроджуся на справе, якая адразу пасля першага Новага года для нашай рэдакцыі стала не самай лепшай навінай. Некалькі тыдняў назад у гэтым месцы быў надрукаваны мой ліст у адрас Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, у якім я аспрэчыў прапанаваную нам датацыю на 2018 г. памерам у чатырыста семдзесят тысяч злотых. Такая яе велічыня хопіць толькі на выдаванне «Нівы» са студзеня да кастрычніка. Нашы аргументы не былі аднак выслуханы і ў якасці калядна-навагодняга падарунку атрымалі мы навіну, што толькі вышэйзгаданая сума канчаткова прызначаная нам міністрам гэтага ведамства. На сайце міністэрства менавіта зараз апублікаваны пералік датацый для ўсіх нацыянальных меншасцей у Польшчы. Сума ад гадоў не ўзрастае і застаецца на ўзроўні шаснаццаці мільёнаў злотых на арганізацыйныя патрэбы грамадзян Рэчы Паспалітай непольскай нацыянальнасці. Зразумела, што такая сума сродкаў не задавальняе нікога. І тут, вядома, адны на другіх пачынаюць узаемна касавурыцца. Адны меншасці лічаць атрыманыя грошы другім, паасобныя арганізацыі дадзенай меншасці глядзяць з падазронасцю і нядобразычлівасцю на сваіх аднапляменцаў. Адным словам, людзі самі сабе становяцца ворагамі. І толькі варажэнькі спраў нацыянальных меншасцей паціраюць рукі ад задавальнення, наглядаючы за такім ходам падзей. Калі мы зараз пастаянна чуем пра паспяховыя сацыяльныя праекты дзяржавы і эканамічны рост заможнасці польскага грамадства, тады чаму бюджэт краіны не ў змозе павялічыць падтрымкі для праектаў нацыянальных меншасцей? Мы таксама і падаткаплацельшчыкі, і грамадзяне, якія ў рэальнасці хочуць таксама адчуць добрую змену ў сваёй меншаснай дзялянцы. А то выглядае так, што чарговыя ўрады пачалі глядзець на нас як на нейкую непатрэбшчыну, якая, найлепей было б, каб адмерла і сышла з гэтага свету як найхутчэй. Вядома, у выпадку нашай, беларускай, нацыянальнай меншасці ўздзейнічае таксама фактар палітычнай і духовай слабасці беларускай ідэі ў самой Рэспубліцы Беларусь. А можа менавіта такая палітычна-гістарычная беларуская слабасць там і тут выгадная гульцам як еўрапейскай, так і польскай палітыкі?

Чаму над гэтым задумваюся? Бо аніяк не магу пагадзіцца з рашэннем міністэрства, якое адмовілася ў гэтым годзе прафінансаваць юбілейную канферэнцыю, арганізаваную Літаратурным аб'яднаннем «Белавежа» з нагоды яе шасцідзесяцігоддзя, а таксама адкінула прапанову Беларускага гістарычнага таварыства адзначыць сотую гадавіну Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзве знакавыя падзеі 2018 года ў нашым беларускім жыцці ў Польшчы проста няважныя! Бо хтосьці ведае лепш за нас саміх, што нам патрэбнае і што можам, а чаго не можам адзначаць. Не ў гэтым месцы даказваць чарговы раз, што, прыгадваючы словы класіка польскай літаратуры, мы таксама не гусі і не толькі сваю беларуска-падляшскую пісьменнасць (узгадайма хаця Супрасль і Заблудаў), але і гісторыю маем. І яны ў гэтым месцы зямлі больш раннія, чым у нашых братоў-палякаў. Так тут склалася. А ўсім тым, якім чарговыя нашы клопаты нясуць адкрытую ці скрываную радасць, прыпомню: хто сее вецер, пажынае буру.

Яўген ВАПА

# ЖЫЦЬ І МЕЦЬ НАДЗЕЮ

## пра кнігу Міхася Андрасюка „Вуліца Добрай Надзеі”






**Андрасюк Міхась. Вуліца добрай надзеі**: апавяданні. – Мінск: Медысонт, 2010. – 304 с. – ( Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 7.)

**Міхась Андрасюк** — адзін з самых цікавых празаікаў літаратурнага аб'яднання „Белавежа”. Як і ў творчасці іншых пісьменнікаў беларуска-польскага памежжа наогул, у ягонай кнізе „Вуліца Добрай Надзеі” важную ролю адыгрывае асэнсаванне сваіх каранёў, што ўпіліся калісь у беларускую глебу, а парасткі ўжо красуюць на іншай зямлі, у іншай краіне. Гэта погляд у мінулае, дзе паўстаюць вобразы блізкіх людзей, папярэднікаў, і ўважлівае ўглядванне ў сучаснае, дзе жывуць розныя, добрыя і не вельмі, таленавітыя і зусім звычайныя, але ўсе без выключэння цікавыя людзі.

Апавяданні гэтае кнігі ўспрымаюцца як адзінае мастацкае палатно, нават калі ўводзяцца новыя героі, не звязаныя з сям'ёй аўтара-апавядальніка. Повязь тут больш шырокая, цесная. Усе яны звязаныя адным месцам, невялікім мястэчкам і ягонымі ваколіцамі, дзе ўсе ведаюць адзін аднаго, дзе жыццё плыве павольна, няспешна, хоць часам і робіць пэўныя выкрунтасы ў лёсе асобных людзей.

Першае апавяданне „Граніца” зачыннае. Успрымаецца як прадгісторыя асноўнага сюжэту. Як сталася, што гэтая спрадвечна беларуская зямля адышла да суседняе краіны, што тут паўстала мяжа? Аўтар распавядае не столькі пра гістарычныя падзеі, а пра жыццё тутэйшых людзей, якія, навучаныя горкім досведам, умелі і ў нявыкрутных неяк выкруціцца, каб не пазбавіцца свайго. Як маглі, трымаліся свайго, бо верылі, што гэта не толькі аснова іх дабрабыту, але і спадчына дзецям, унукам. Верылі ў непахіснасць спрадвечнага ўладкавання жыцця на гэтай зямлі. Так і тутэйшы гаспадар Уладзімір Іванюк, з мастацкага жыццяпісу якога пачынаецца сямейная сага, адваваў-такі ў застрашаных, не вельмі згаворлівых савецкіх жаўнераў права жыць на сваёй зямлі. Хіба мог ён падумаць, што ўжо наступнаму пакаленню створанае ім будзе непатрэбна?

Пісьменнік лёгка пераносіць падзеі ў той, ужо далёкі час, 1945-ы год, заглядвае ў крамлёўскі кабінет, дзе вырашаліся пытанні межаў між краінамі, прапаноўвае сваю версію межавога адхілення ад прамога шляху, калі ўтвараўся гэты кут, калі паўстала граніца, за якой „лес, а за лесам рускія”. Рускія ўспрымаюцца як ворагі. І зусім не таму, што тыя гатовыя ў кожны момант ваяваць з імі, іх краінай, а таму, што быццам іншароднае цела, упіліся ў калісь такі натуральны свет чалавечага і прыроднага існавання. І гэта сталася нязменным, непарушным: „Абымшэлыя пні знікаюць у зялёнай чупрыне малінаў і крапівы. І ў гэтых расчохраных малінах, і ў пякучай крапіве напэўна сядзяць рускія ды, выструніўшы вушы, перасейваюць шум дрэваў, разгортваюць смольныя занавескі сасновых водараў, вылузваюць з ветру чалавечыя словы, а, можа, нават і думкі. Навошта — ніхто не ведае, але дакладна так ёсць. Бо чаму, падступаючы да лясной сцяны, старыя міжвольна сцішваюць голас, саслізгваюцца ў шэпт, а іх старыя жанкі засланяюць вусны далонямі і шныраць нямымі позіркамі ў густым кустоўі?” Ворагі, бо пасялілі страх у гэтай прыгожай мясціне, пазбавілі яе натуральных рухаў, гукаў, водараў, замкнулі калісь адкрытую вялікаму свету прастору. Пасеялі боязнь і недавер у душах людзей, якія памятаюць іншы стан рэчаў: „Раней, пры іх маладой памяці, усё было інакш — дарогі не ўпіраліся ў калючы дрот, а вольнымі стужкамі праз Высокае, Валкаставец, Амелянец пралягалі за гарызонт, на край свету, а можа далей, і ніхто не бачыў тут ні граніцы, ні рускіх”.

Герой Міхася Андрасюка ўзгадаваны не ў прыродна-вясковым асяроддзі, а ў рэаліях местачковага існавання. Адметнасць ягонага Мястэчка — параўнальная маладосць. Яно „яшчэ маладзшае за бліжэйшы свет, і не так, здаецца, даўно ў цэнтры яго расла пушча і сюды прыязджалі пастраляць зуброў літоўскі князь або польскі кароль”. Аўтарам напісана менавіта так — з вялікай літары. Бо гэта цэлы свет, краіна маленства, дзе ўзгадаваны не толькі сам, але і бацькі. Вуліцы, кавярні, музей і ўрэшце фабрыка, узнікненне якое сталася прычынай росквіту Мястэчка, — усё гэта знаёмае, роднае, прапушчанае праз мастакоўскае бачанне, разуменне. „Я” аўтара-апавядальніка — суб'ект аповеду з творчым успрыняццем свету. Ён убірае ў сябе памяць сям'і, роду, Мястэчка, роднае зямлі, каб ператварыць гэта ў слова і перадаць чытачу, каб не згубіліся ў часе згадкі пра перажытае, створаныя папярэднікамі міфы. Іх ствараюць не толькі творчыя асобы, але і далёкія ад літаратуры, мастацтва людзі. Бо ў часе духоўнага прасвятлення ім даецца магчымасць узяць на сябе адказнасць за мінулае і будучае сям'і, у слове ўвасобіць значнае, што знітуе нашчадкаў, не дасць ім згубіцца між чужых людзей. Пакінуць роднае гняздо можна, бо не выжыць там кабеце з малымі дзецьмі, а вось згубіць памяць роду нельга. Гэта ўсведамляе бабуля Сонька, жонка Уладзіміра Іванюка, на чые плечы пасля смерці мужа легла адказнасць за выхаванне дзяцей. У яе вусны аўтар укладае не пазбаўленую мастацкага домыслу гісторыю пра пачатак іх сям'і, што нагадвае біблейскую легенду пра з'яўленне чалавечага роду. Міфалагізацыя сямейнага падання патрэбна жанчыне, каб непарушнымі засталіся кроўныя сувязі, „бо кожнай сям'і неабходныя свае імёны і свая памяць, і яны важнейшыя за ўсе, пацверджаныя навукай, але чужыя праўды”.

Асэнсоўваючы канцэпцыю творчай асобы, літаратуразнаўца Алена Белая слушна сцвярджае: „Толькі чалавек дзівіцца свайму ўласнаму існаванню, думае аб ім. Але людзі адрозніваюцца адзін ад аднаго ступенню, мерай гэтага здзіўлення. Самай высокай ступенню „думання” як імкнення зразумець свет валодае мастак”. Такім мастаком быў дзед аўтара-апавядальніка Уладзімір Іванюк. І няхай ён не пакінуў мастацкае спадчыны, усё ж быў асобай творчай. Вочы яму былі дадзеныя не дзеля простага сузірання вакольнага свету, а дзеля пранікнення ў глыбіні, не падуладныя звычайнаму чалавеку. „Блакіт яго вачэй заходзіў так глыбока, што спалучаўся з сэрцам. Менавіта пра такіх людзей і кажуць, што яны сэрцам глядзяць на свет. А яшчэ з бяздонным блакітам вачэй пераклікалася здзіўленне. Уладзіміра здзіўляла ўсё: усход і заход сонца, вяртанне буслоў з далёкіх краін, кветка рамонка ў траве і халодны лапух на зімовай шыбе”. Сутыкненне двух светаў, рэальнага, у якім ён існуе, і свету ягоных летуценняў, не выклікаюць драматычнага надрыву. Герой здолеў уладкаваць сваё жыццё такім чынам, каб штодзённае натуральна пераходзіла ў вышэйшыя сферы, не перашкаджала палёту думкі.

А вось старэйшы сын Уладзіміра, Валодзя, гэтага трагічнага сутыкнення не пазбег. Балючае адчуванне памежнасці свайго існавання (між рэальнасцю і мроямі, між мінулым і сучасным) вядуць да адчужанасці, адзіноты, непрымання і неразумення іншых пакутных блуканняў блізкімі. Недарэмна ў ягонай знявечанай свядомасці паўстае вобраз мяжы як чагосьці злавеснага, што скалечыла лёс: „Асабліва даймала граніца. Калі раней яна ляжала на душы халодным лязом, што размяжоўвае на дзве часткі сад пана Драгабыцкага, то цяпер з заараннай паласы падымалася зубатым Цэрберам, шматгаловай гідрай, тупым, непадкупным вартавым, пастаўленым невядома кім і невядома навошта”. Бяда героя, магчыма, ёсць расплатай за пакінутае роднае гняздо, разарваную повязь з родным кутом, хай нават асабістае віны ягонае ў тым няма. На яго быццам ускладзены кімсьці праклён за грахі іншых.

Пісьменнік паказвае, як чалавечае жытло, дом, утульны, абжыты, паступова ва ўрбанізаванай прасторы ператвараецца ў безаблічны блок, пад'езд, на фоне якога, падавалася б, не здольны ўспыхнуць у сэрцах ягоных жыхароў ніякія пачуцці, што парушылі б даўно ўсталяваны, запаволены ход падзей, бо ўсё рамантычнае затаптана шэрай штодзённасцю, як у жыцці героя апавядання „Сустрэча”: „Папаўднёвай гадзінай апынуўся пан Носік перад дзвярыма пад'езда, знаёмага, шэрага і абдзёртага з маслянай фарбы, як шэрай і абшарпанай з мрояў была ў апошні час яго мужчынская экзістэнцыя”. Але так толькі падаецца. Бо і ў шэрай, замкнутай ад рамантычных скразнякоў прасторы часам з'явіцца незвычайная птаха, заззяе яркімі колерамі, узорамі, здольнымі абудзіць пачуцці, спакусіць на неабдуманыя ўчынкі нават такога, устойлівага, ураўнаважанага героя, як пан Носік з апавядання „Сустрэча”, які вось ужо ўваходзіць у свой шэры пад'езд і сустракае „нештодзённую з'яву. Трыццацігадовую, высокага росту, тонкую, зафіксаваную зверху навальніцай фіялетава-чорных кудзяроў. З'ява адзетая была ў летнюю сукенку, даўжынёй больш-менш у палову сцягна. Калі аднак названы цуд краўцоўства разглядаеш з другое, вертыкальна-касой перспектывы лесвіцы, прапорцыі між закрытымі і незакрытымі раёнамі перасоўваюцца якраз на карысць раёнаў, пазбаўленых вопраткі”. Міхась Андрасюк дасканала валодае майстэрствам гумару, якому „належыць значная роля сярод сродкаў стварэння мастацкай канцэпцыі асобы”, умее спалучыць у адным апісанні лексіку розных моўных пластоў, што спрыяе стварэнню гумарыстычнага эфекту.

Мястэчка ў кнізе Міхася Андрасюка паўстае як жывы арганізм, дзе ўсё ўладкавана, дзе мае значэнне кожная вуліца, нават самая малая. Галоўнае тут, чыё акно выглядае на гэтую вуліцу, чыё вока высвечвае рухі, абрысы, колеры пазаваконнага свету.

Вось жа, у апавяданні „Дом” пакойчык з акном на вуліцу належыць творчай асобе, пісьменніку: „На гэтае якраз акно былі ў яго вялікія спадзяванні. „Ці раскрыецца акно новай кніжкай”, — думаў, спаглядаючы з другога паверху ў чорны хрыбет вуліцы. І сумняваўся. Бо вуліца нат не вуліца была, а вулачка, што малаважнай жылкай пульсуе ў сетачцы такіх жа сяброваk. Яе важнасць, яе значэнне — хто ведае — мабыць, зводзілася да нямой прысутнасці на карце мястэчка, да транспарту звычайных спраў з аднае хвіліны ў другую”. У гэтым невялікім урыўку змешчана вельмі многа: прыадкрыты сакрэты псіхалогіі літаратурнае творчасці, калі малады пісьменнік з маладой амбітнасцю марыць пра вялікі твор, а жыццё прапаноўвае ягонаму зроку толькі самае малое. Ды ўсё ж ён умее бачыць значна далей за тое, што здольна паказаць яму сціснутая прастора. Намаляваны „партрэт”, ды і то псіхалагічны, вулачкі, на якой (толькі прыглядзься, толькі ўслухайся!) столькі ўсяго адбываецца.

Наогул, гэтае апавяданне „Дом” адно з самых глыбокіх, псіхалагічна дасканалых. Надта шмат у існаванні дома чалавечага. Ён з'явіўся і існаваў у кагорце іншых. Быў самым вялікім, а значыць і самым значным. Мо таму і застаўся апошнім, калі іншыя былі разбураныя, „застаўся, бы правадыр зваёванага чужынцамі племя”. Пражыць на самоце, страціўшы ўсіх, усё, ператрываць занядбанасць, бо шлях адзінокага, усімі пакінутага ці дома, ці чалавека звычайна адзін — жабрацтва, вельмі няпроста: „Людзі заўсёды абмінаюць жабракоў, ступаюць на супрацьлеглы тратуар, а калі з-за сваёй няўвагі здараецца ім напароцца на твар з такім асобенем, тады адводзяць вочы абы-куды або пільна ўзіраюцца ў наскі сваіх чаравікаў”. Вядзецца пра жыццё і смерць, пра аднаўленне, абуджэнне з нябыту, пра захаванне памяці і ўменне знайсці „прыгажосць у старых мурах”.

Дом у фінале апавядання выступае напоўненым мудрасцю, памяццю. Аўтар вяртае насельнікаў не проста ў ягоную прастору, а да ягоных ведаў, успамінаў, уведаць якія вельмі няпроста: „Дом таксама маўчаў. Бо толькі той, хто ўсё ведае, можа сабе такое дазволіць”.

І пра вечны дом у кнізе Міхася Андрасюка таксама ідзе аповед. Смерць успрымаецца героямі не як трагедыя, а як натуральны працэс, зыход у іншае быццё: „Зараз пэўна на месцы ўжо ён, дзе трэба”, — разважаюць местачкоўцы пра смерць свайго суседа Сенькі, сабраўшыся на ягонае пахаванне. У такія хвіліны вока людское часцей падымаецца да неба, бо адтуль толькі можна атрымаць адказ на тыя пытанні, якія хоць калі ды прыходзяць да чалавека: адкуль ён і куды адыходзіць. Згледзеўшы знічку (апавяданне так і называецца „Знічка”), правеўшы яе позіркам, кожны пра нешта падумаў, асэнсоўваючы вечнасць. Аўтар пераказаў гэтыя калектыўныя развагі словам мастацкім: „Мільёны зор стаяць у знерухомелым сне, і толькі яна разбудзілася ды ляціць светлым, радасным полымем на сустрэчу з няўхільным знікненнем. Здаецца — не страшны той нябыт, не мае значэння, калі на адну хвіліну, на адзін міг засяроджваеш, згартаеш на сябе зрок і ўвагу ўсяго сусвету”.

Гэтак жа натуральна адыходзіць у свой вечны дом бабуля Сонька. Ідзе насустрач свайму каханаму Уладзіміру, закончыўшы тут, на зямлі ўсе свае справы.

Апавяданне „Вуліца Добрай Надзеі”, што дало назву кнізе, — гэта своеасаблівы зрэз местачковага існавання. Тут, на гэтай вуліцы, знаходзяць водгук многія падзеі, што адбываюцца ў краіне. Але ўсё ж вуліца жыве сваім, самадастатковым жыццём, маючы аптымістычную перспектыву, якую аўтар укладвае ў вусны цёткі Варвары, праўдзівае вартаўніцы, захавальніцы тутэйшых нематэрыяльных скарбаў, ведаў пра ўсіх і ўсё: „Заўтра будзе лепей”. Гэта вуліца, якая мусіць быць у кожным мястэчку, бо хіба могуць існаваць людзі, страціўшы надзею.

Альжбета КЕДА

## Навуковыя стыпендыі

Маршалкоўская ўправа паінфармавала, што вучням, якія ў канцы навучальнага года атрымалі сярэднюю ацэнку 5,00 і былі сама меней трохкратнымі лаўрэатамі конкурсу, алімпіяды, школьнага турніру ваяводскага ўзроўню або аднакратным лаўрэатам агульнапольскага ці міжнароднага ўзроўню, прызначаны былі 52 навуковыя стыпендыі. У плебісцыце ўдзельнічалі 179 вучняў. Ацэнкай займалася журы з прадстаўнікоў Маршалкоўскай управы і Сейміка Падляшскага ваяводства ды Падляшскай кураторыі асветы. Віншуючы вынікаў, Тадэвуш Мосек з Кураторыі асветы быў усхваляваны дасягненнямі стыпендыятаў: «Багацце конкурсаў, турніраў, алімпіяд, у якіх вы ўдзельнічалі, было аграмаднае, таму цяжка было вылучыць гэтых найлепшых».

Сёлетні выпускнік I Ліцэя ў Беластоку васемнаццацігадовы Кшыштаф Лушчынскі з'яўляецца лаўрэатам алімпіяды па хіміі. Да конкурсу рыхтаваўся два гады. У размове з карэспандэнтам прэс-агенцтва ПАП выявіў, што вылучэнне, якое атрымаў, сведчыць пра тое, што «сама навука нават у ліцэі дазваляе дасягнуць вымерныя карысці», а стыпендыю 4 тыс. зл. адложыць на вучобу ў вышэйшай медыцынскай установе, куды збіраецца падацца пасля матуральных экзаменаў.

Вераніка Ялбжыкоўска з III Ліцэя ў Сувалках — лаўрэатка гімназічнага конкурсу па французскай мове, атрымала ўзнагароду Агульнапольскага дэкламатарскага конкурсу французскамоўнай прозы і паэзіі. Васемнаццацігадовая стыпендыятка выявіла ПАП, што шмат часу прызначае на навуку, але гэта яе захапленне. «Заўжды я была кніжніцай, бо хацела ведаць больш, глытаць веды, таму дабілася такіх вынікаў».

Член Праўлення ваяводства Багдан Дыюк выказаў спадзяванне, што вылучаныя вучні паступяць у падляшскія вышэйшыя ўстановы, затым уладкуюцца на працу ў рэгіёне.

Рэктар Беластоцкай палітэхнікі праф. Лех Дзеніс, дзе адбывалася ўручэнне стыпендый, падкрэсліў, што месца ўрачыстасці было выбрана невыпадкова. «Палітэхніка адкрыта для ўсіх маладых, адораных людзей", — сказаў рэктар, згадваючы дасягненні студэнтаў гэтай вышэйшай установы м.інш. канструкцыі «марсіянскіх» усюдыходаў, якія прэзентаваліся ў час уручэння стыпендый. Ваяводскае праўленне прызначыла стыпендыі падляшскім вучням другі раз. У мінулым годзе атрымала іх 50 вучняў. Маршалкоўская ўправа ў Беластоку прызначае штогод таксама спартыўныя і артыстычныя стыпендыі.

Паводле ПАП апр. **(Ус)**

## Пабудавалі дарогу, вуліцу і святліцу

У мінулым годзе ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета пабудавалі асфальтавую дарогу, вуліцу і новую святліцу.

У маі 2017 года ехаў я ўпершыню па асфальтавай дарозе з Падляўкова ў Бярнадскі Мост. Цяпер тут роўная і гладкая як стол маставая на 5-кіламетровым адрэзку гэтай пушчанскай дарогі. Мае яна сем метраў шырыні. Прыемна па ёй ехаць і на аўтамабілі, і на роварах. Цераз Бярнадскі Мост можна ехаць у Барысаўку або ў Крыніцу і далей у Крывец і да ваяводскай шашы, якая вядзе з Навасадаў у Нарву, Заблудаў і Беласток.

У пачатку ліпеня мінулага года паклалі асфальтавае палатно на вуліцы ў вёсцы Гарадзіска каля Нараўкі. Раней тут на 650-метровым адрэзку быў сякі-такі брук. Цяпер на вуліцы ляжыць асфальт, а на ўездах на падворкі паклалі чырвоную брусчатку.

25 чэрвеня мінулага года (было гэта якраз на святога Ануфрыя) прыгожую драўляную святліцу з ганкам здалі ў карыстанне ў Новым Масеве. У той дзень на травяністым ды пясчаным панадворку каля гэтага вясковага дома культуры адбыўся беларускі народны фэст пад лозунгам «І там жывуць людзі» з удзелам сямі айчынных і замежных (Беларусь) мастацкіх вакальна-танцавальных калектываў. Было гэта першае культурна-забаўляльнае мерапрыемства ў гэтай вёсцы. Яно на доўга застанецца ў памяці жыхароў пушчанскіх вёсак Новае Масева і Старое Масева, распалажаных ля ўсходняй дзяржаўнай мяжы. **(яц)**



# Партрэты ў Гайнаўскім белмузеі



Экспазіцыю адкрылі дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк і аўтар прац Марцін Крышпінюк (злева)

У Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва» яшчэ ў 2017 годзе адкрылася экспазіцыя партрэтаў, выкананых алоўкам, вугалем і тушшу бяльшчанінам **Марцінам Крышпінюком**, членам мастацкай майстэрні «Атэлье», якая дзейнічае ў Бельскім доме культуры. Яго працы, перш за ўсё партрэты, знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Польшчы, Злучаных Штатах Амерыкі і Швецыі. Экспазіцыя ў Гайнаўскім белмузеі — другая персанальная выстава работ Марціна Крышпінюка.

Экспазіцыю з амаль 50 партрэтаў адкрыў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк у прысутнасці іх аўтара, яго сяброў з Бельска-Падляшскага, між іншым тых, якім выканаў партрэты, і гайнавян. Марцін Крышпінюк зрабіў неспадзеўку дырэктару Ціханюку і ўручыў яму ягоны партрэт, выкананы на падставе здымка. Пасля сабраныя захапляліся майстэрствам бельскага партрэтыста.

— Мы ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва» прэзентавалі розныя жанры мастацтва. Паказвалі партрэты, як частку мастацтва паасобных удзельнікаў нашага праекта. Аднак цяпер цэлую выставу прысвяцілі партрэтам, паколькі заўважыў я, што на персанальнай выставе Марціна Крышпінюка ў Бельскім доме культуры было іх многа, — сказаў дырэктар Тамаш Ціханюк, які назіраў сабраным асобу непрафесійнага, але здольнага рысаўніка і жывапісца з Бельска-Падляшскага. Марцін Крышпінюк многа часу ўдасканальваў свой варштат самастойна, але ад некалькіх гадоў займаецца ў мастацкай майстэрні «Атэлье» у БДК і вучыцца там мастацкім тэхнікам пад наглядам інструктараў мастацтва, у тым ліку апекуна майстэрні Марыі Бабулевіч.

Марцін Крышпінюк нарадзіўся ў 1976 годзе ў Бельску-Падляшскім. Закончыў вучобу ў Будаўнічым тэхнікуме і Санітарнай навучальнай установе ў Бельску. Працуе ў бельскім прадпрыемстве, а ў вольны час рысуе, крыху малюе і сваёй страсцю зацікавіў сваіх дзяцей. Пейзажы і нацюрморт выконвае перш за ўсё ў акрылевай і пастэльнай тэхніках. Захапляецца музыкай, іграў у гурце «Эрэбас» у Бельску-Падляшскім. Працы бельскага мастака прэзентаваліся на калектыўных выставах, між іншым у БДК. У 2016 годзе прымаў ён удзел у XIX Аглядзе аматарскай мастацкай творчасці Падляшскага ваяводства. Працы Марціна Крышпінюка паказваліся ў 2017 годзе на яго персанальный выставе «Вядомыя і невядомыя твары», на калектыўнай экспазіцыі «Бельск-Падляшскі ў жывапісе» і на такой жа выставе, наладжанай з нагоды святкавання трыццацігоддзя мастацкай майстэрні «Каларыт» у БДК. Спадар Марцін у 2017 годзе прымаў удзел у міжнародных жывапісных пленэрах у Плёсках і Кобрыне. Мінулы год быў вельмі ўдалым для мастака — рэпрадукцыі яго работ увайшлі ў састаў каталога, які выдае Гайнаўскі белмузей, а ў канцы 2017 года адкрылася выстава яго партрэтаў у белмузеі.

— Зацікаўленасць рысаваннем паявілася ў мяне яшчэ ў дзяцінстве. Я рысаваў і маляваў краявіды, людзей, жывёлу і іншае. Свой варштат удасканальваў у пачатковай школе з дапамогай настаўніка мастацтва, а пасля сам стараўся яго ўдасканаліць. Мае здольнасці заўважыў настаяцель Міхайлаўскага прыхода ў Бельску айцец Лявонцій Тафілюк, які вучыў мяне праваслаўнай рэлігіі ў школе. Менавіта ён запрапанаваў мне займацца ў ягонай Іканапіснай школе. Аднак я не рашыўся вучыцца іканапісу. Толькі пазней у майстэрні «Атэльер» стаў выконваць працы рознымі тэхнікамі, каб канчаткова засяродзіцца на партрэтах, выкананых алоўкам, вугалем і тушшу. Нарысаваў я партрэты жонцы, дзеткам, сямейнікам, сябрам і знаёмым. Зараз выконваю іх па заказах. Стараюся рысаваць вельмі рэальнае адлюстраванне людскіх твараў. Аднак мне больш падабаюцца больш мастацкія партрэты, якія змяшчаюць іншыя элементы апрача твару, — распавядаў Марцін Крышпінюк.

— У дзяцінстве я з бацькам ездзіў да бабулі ў Кнаразы і гэтыя выезды паўплывалі на пазнейшае фармаванне маёй дарогі ў мастацтве. Зараз я шукаю, іду крыху ў бок сюррэалізму, але ў будучыні гэта можа памяняцца. Я любіцель рок-музыкі і наведвальнік рок-фестываляў. Выконваў плакаты для музычных мерапрыемстваў, праекты вокладак альбомаў з музыкай і графічныя праекты для маек. Калі заказчык хоча партрэт на запраектаваным фоне, то я такую замову раблю. Аднак найчасцей заказваюць рэалістычныя партрэты, якіх выкананне займае многа часу, хаця б дапрацоўка дэталяў твару.

— У 2017 годзе працы Марціна Крышпінюка мы прэзентавалі на персанальнай і калектыўных выставах і ў альбоме «Бельск-Падляшскі ў жывапісе». Марцін удзельнічаў у занятках майстэрні «Атэлье», выязджаў на нашы пленэры. Ён здольны, ахвотна вучыцца мастацтву, авалодаў рознымі тэхнікамі. Пры партрэтах умела карыстаецца алоўкам, вугалем і тушшу, удала карыстаецца тэхнікамі акварэль, пастэль і акрыль. Думаю, што ёсць будучыня перад Марцінам як партрэтыстам, які апошнім часам моцна паправіў свой варштат працы ў гэтай галіне, — сказала Марыя Бабулевіч, кіраўнік па справах мастацкай адукацыі БДК і заадно апякун мастацкай майстэрні «Атэлье».

— Я рады персанальнай выставе маіх партрэтаў і каталогу, які ўзялі з сабою мае сябры і знаёмыя. Я паправіў свой варштат працы, што бачна на выставе. На ёй можна прасачыць як мяняўся мой варштат работы ў даўжэйшым перыядзе, — сказаў Марцін Крышпінюк.

Белмузейны спецыяліст па гісторыі мастацтва Агнешка Ціханюк звярнула ўвагу на розніцу паміж ранейшымі партрэтамі, якія ў мінулым выконваліся алоўкам і апошнімі работамі мастака з Бельска, на якіх з дапамогай алоўка і вугалю іх аўтар стараецца паказаць таксама характар героя партрэта.

«Марцін Крышпінюк — мастак-аматар, але ў яго незвычайныя здольнасці да рысавання чалавечых партрэтаў. Ён выдатна перадае характар і індывідуальнасць партрэтаваных людзей. З некаторымі паказанымі постацямі ён моцна звязаны эмацыйна і гэта відаць на рысунках. Апрача партрэтаў сям'і, паўстаюць партрэты вядомых людзей... Партрэт з'яўляецца адлюстраваннем душы кожнага чалавека, таго, што ён скрывае. Ухапіць міміку, нейкі рух цела — гэта галоўная ідэя кожнага партрэта. Партрэты Крышпінюка захапляюць натуральнай прыгажосцю. Яго партрэты маюць нейкую чароўнасць старых класічных чорна-белых фатаграфій. Дзякуючы рысунку алоўкам, у мастака атрымліваецца шырокі дыяпазон тонаў і глыбіня партрэта», — напісала Агнешка Ціханюк у каталогу, які ўвайшоў у састаў «Слоўніка беларускіх мастакоў». Каталог атрымліваюць бібліятэкі ў Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім і навакольных гмінах, дасылаецца ён таксама ў найважнейшыя бібліятэкі Польшчы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Святло нараджэння



**Чарговы год віфлеемская зорка рассвятляе нашы хаты. Зноў калядны стол і просвіра або куцця — знак Бога. І адно свабоднае месца для чаканага госця (а так сапраўды, то толькі сімвал, бо колькі з нас асмелілася б прыняць у хату заблуканага госця?), як памяць пра словы Госпада: „Як вы зрабілі аднаму з Маіх меншых братоў, так зрабілі і Мне” (Мф., 25:40). Неабходным атрыбутам нашай беларускай абраднасці — і каталіцкай, і праваслаўнай — з'яўляецца гвязда, зорка, якая абвяшчае пра з'яўленне на свет Хрыста.**

Ёлка — сімвал райскага дрэва, сімвал жыцця. І ад сэрца ўзятыя падарункі. Уся сям'я абменьваецца пажаданнямі.

* * *

Хачу напісаць, на што ў час свята — апрача духоўнай сферы і харчавання — людзі найбольш засяроджваюцца: гэта ёлкі і свяцільныя аздобы.

Яшчэ ў 1960-х гадах не было штучных ёлак. На вёсках сем'і былі шматлікія і дрэўка яліны было чаканым. А з гэтым не было лёгка. Узнікала праблема, бо ў афіцыйнай продажы іх амаль не было. Справу афармлялася па нейкаму блату або (гэта для адважнейшых) трэба было елку неяк незаўважна скрасці з лесу. Памятаю, што мой бацька, сталяр, умеў зрабіць нам елку толькі з яловых галінак. У драўляным калку выверчваў дзіркі і туды збіраў галінкі. Мы, дзеці, не надта былі задаволены, але калі дрэўка прыбралі аздобамі, то ёлка была быццам з лесу.

З успамінаў пажылых людзей запамятаў я, што ў даўніну ёлку часта мацавалі да столі, таму што хаткі былі цесныя. Зараз узнікае перадсвяточная дылема: ці ёлкі маюць быць натуральныя, ці штучныя. Калі штучныя былі паявіліся ў продажы, то можна сказаць, што людзі сталі іх масава купляць. Але штучная, хаця не асыпаецца і не брудзіць дываноў, то і не пахне. Варта памятаць, што ў даўніну на ёлцы запальвалі невялікія каляровыя свечкі, мацаваныя ў адмысловых гняздзечках. І не раз здаралася, што, нягледзячы на меры асцярожнасці, ёлка займалася агнём. Ёлка была радаснай, але і небяспечнай.

Недзе каля трыццаці гадоў таму святочная ёлка „выйшла” з хаты навонкі. Памятаю, што першым у Орлі і наваколлі я пачаў чапляць святочнае асвятленне на жывой елцы перад домам. Тады яшчэ не было ў продажы каляровых лямпак, то я маляваў звычайныя электралямпачкі, ствараючы рознакаляровы набор. Расходаваў ён шмат току. Пакуль не прынялося гэта ў іншых, то людзі здзіўляліся і нават крытыкавалі, прытыкаючы што „такі святы”. Мая піхта расла, у крамах і на рынку паявіліся гатовыя асвятляльныя наборы, якія я толькі ўдасканальваў. Некаторыя людзі прыходзілі загадзя пабачыць маю ёлку, гаварылі, што чакаюць калі заззяе, пад'язджалі вечарамі паглядзець як выглядае ў новым антуражы. Рабіў гэта цягам некалькіх гадоў, да часу, аж дрэва вырасла завысока (у міжчасе елку і так прыстрыгаў, абрэзваў вяршок) і трэба было яе ссячы. Зараз упрыгожваю меншую елку.

Ужо больш за дзясятак гадоў вясковыя людзі падхапілі прыгарадскую моду і па вёсках сталі масава ўпрыгожваць дрэўкі на сваіх участках. Калі настала мода насаджвання шыпулькавых дрэвак, кожны садзіў аздобную яліну перад домам. Але і гэта з часам памянялася. Яліна расце вельмі шпарка і пасля васьмі гадоў становіцца вялікім дрэўкам. Нядаўна (асабліва калі на кароткі час памяняўся закон пра высечку дрэў) многія пазбыліся шыпулькавых, нацешыўшыся імі і пераканаўшыся, што з такой аздобнай елкі няма ні добрага апалу, ні сталярскага матэрыялу.

Шмат ужо гадоў лясная елка стала формай асаблівай прамоцыі, напрыклад некаторыя радыёстанцыі ў перадсвяточны перыяд возяць па гарадах елкі і раздаюць людзям.

Святочныя елкі вырошчваюцца ў лясных гадавальніках. Напэўна і без гадавальнікаў елак хопіць. Калі б не чалавечая рука (догляд і гаспадаранне землёй), дрэвы першымі вельмі хутка апанавалі б цэлы свет. Хопіць на год ці два запусціць глебу, а паявяцца ў ёй разматыя самасейныя дрэвы (напрыклад, калі людзі вярнуліся з бежанства ці цяпер, калі запускаюць лугі). У зямлі захоўваецца мноства насення, гэтак жа як і несенага ветрам у паветры. У невялікіх шчылінках у бетоне хутка вырастаюць дрэвы. Калі б усе хрысціяне шкадавалі елкі з лесу, дайшло б да абсурду.

Ужо шмат часу новай праявай сімвалічнага віфлеемскага асвятлення сталі светлавыя гірлянды на будынках і агароджах. У Орлі 8 снежня 2017 года будынак Гмінай управы (восенню грунтоўна абноўлены звонку) высока дэкаравалі святочнымі лямпачкамі, карыстаючыся спецыялістычным высоўным кранам з аўтамабіля.

Ад некалькіх гадоў таксама ліхтарныя слупы ў арлянскім рынку ўпрыгожваюць святочныя аздобы (сняжынкі, мабыць атрыманыя з Бельска), а ад двух гадоў у цэнтры адпачынковага парку стаўляецца высокую натуральную ёлку, упрыгожаную лямпачкамі.

У Арлянскай гміне выключна ў святочныя перыяды (калядны і велікодны) вулічнае асвятленне гарыць усю ноч (звычайна толькі некалькі гадзін, да адзінаццатай вечара). Ёсць відна і бяспечна, а гэта быццам „падвойнае” свята ў багатай гміне.

* * *

Любім Каляды за незвычайны настрой, за тое, што наш Бог стаў Дзіцяткам, што захацеў мець Маці і цешыцца Ейным каханнем. Хацеў быць прытулены, безабаронны, плачучы. І такім Бог астаўся назаўсёды. Неназойнічае чалавеку, хаця і любіць яго.

У святочныя дні па ўсіх кутках свету на ўсіх мовах будзе гаворка пра Святую ноч, загучаць калядкі. У гэтую адзіную ноч асвячаецца і збаўляецца кожная ноч. Можам ноч праслаўляць, веручы, што і яна Божая: „Твой дзень і Твая ноч” (Пс., 73:16). Вачыма нашай веры бачым у тую ноч векавечнае святло.



Віктар ШВЕД

## Жыць з Надзеяй

Вядома, без надзеі
Не дачакаем Святаў
І дажыць не сумеем
Да Навагодняй даты.

Галоўнае — надзея.
Яна дае нам крылы
Жыццёвая ідэя —
Каб толькі нам хапіла!

Няхай разважыць словы
Надзея Артымовіч,
Што мае прад вачыма:
Жыць без Надзеі немагчыма!

## Каварная лавачка

Наш дом сапраўдным веліканам,
Паверхаў і пад'ездаў дзесяць.
Завуць яго ўсе Мангатанам,
Красуецца ён на падлессі.

Дзве лавачкі для адпачынку,
З пачатку і ў канцы дома.
Я прысядаў тут на хвілінку,
Калі быў змучаны, вядома.

Раптам з'явілася жанчына:
— Уставай пан з лаўкі гэтай!
Нядаўна скорая мужчыну
Памерлага ўзяла адгэтуль.

Далей на лавачцы каварнай
Не сядай абавязкова.
Каб пан, што чуецца так марна,
Не стаў смяротнікам чарговым.

І я чамусьці абмінаю
Лавачку заўсёды гэту,
Як быццам бы яна ўжо мае
Звесці мяне зусім са свету.

## Дэмаграфія
### Нараўчанскай гміны

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета ўсё менш і менш жыхароў. Яна пастаянна абязлюджваецца. Перш-наперш маладыя — юнакі і дзяўчаты — выязджаюць у пошуках працы, між іншым, у вялікія айчынныя гарады або ў замежныя заходнія і паўночныя краіны. Састарэлыя людзі паміраюць. Цяпер гміна налічвае 3714 жыхары. Найбольшая вёска Нараўка налічвае 872 чалавекі. У Семяноўцы пражывае 390 асоб, у Старым Ляўкове — 330, у Новым Ляўкове — 209, у Скупаве — 190, у Міклашэве — 170, у Плянце — 149, у Тарнаполі — 129, у Лешуках — 113 і ў Альхоўцы — 99.

Ніжэй соткі налічваюць вёскі: Ахрымы — 90, Свінарог — 87, Заблотчына і Стачок — па 70, Старое Масева — 62, Гушчэвіна — 59, Баб'я Гара — 54, Лесна — 50, Міхнаўка — 49, Новая Лука і Янова — па 45, Новае Масева — 36, Грушкі — 33, Падляўкова — 32, Гарадзіска — 31, Капітаншчына — 30, Пасекі — 29, Слабодка — 24, Бярнацкі Мост — 23 ды Крыніца і Мінкоўка — па 20 чалавек.

Найменшыя паселішчы ў гміне гэта Семенякоўшчына — 17 жыхароў, Сушчы Барок — 16, Новіны і Парослае — па 12, Забрады — 10, Церамкі — 9, Замоша і Баравыя — па 6, Ланчына — 5 ды ўсяго па двух жыхароў маюць Гнілец і Лазовае. Паменшала жыхароў у вёсках Альхоўка, Ахрымы, Баб'я Гара, Міхнаўка, Нараўка і Семяноўка ды пабольшала ў Леснай, у Новым Ляўкове, у Тарнаполі і ў Семенякоўшчыне.

У Нараўчанскай гміне на 96 жанчын прыпадае 100 мужчын. У мінулым 2017 годзе Ніне Янцэвіч са Скупава споўнілася 100 гадоў. Яна найстарэйшая жыхарка Нараўчанскай гміны.

У 2017 годзе памятныя медалі «За шматгадовае шлюбнае жыццё» (за 50 гадоў сужыцця) атрымалі Анна і Мікалай Харкевічы са Старога Ляўкова, Аляксандра і Ян Лясоты з Семяноўкі, Вера і Міхал Марчукі са Старога Масева, Галіна і Барыс Нічыпарукі з Янова, Станіслава і Людвік Стульгісы з Нараўкі ды Тэрэса і Эдвард Валюкі з Леснай. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



*Уладзімір Мацвеенка*

## Ёлка-вясёлка

*Надвячоркам у бары*
*Гуртам збегліся звяры,*
*Каб наладзіць карагод*
*І паклікаць Новы год.*

*Падказаў адразу Лось:*
*— Побач тут палянка ёсць,*
*На ёй ёлка гожая,*
*Стройная, прыгожая...*

*Першым шэры Воўк прыбег*
*І вакол расчысціў снег.*
*Тут Вавёрка з дрэва — скок,*
*Развязала свой мяшок:*

*— Ёсць грыбы, арэхаў з дзесяць,*
*Трэба будзе іх развесіць...*
*Прапішчала з норкі мышка:*
*— А ў мяне старая шышка.*

*Зай тры морквіны прынёс*
*І расчуліў аж да слёз,*
*Як сказаў: «На жаль, сябры,*
*Засталося толькі тры...».*

*А Лісіца ўздыхае:*
*— Нам чагосьці не хапае...*
*— Паглядзіце! — крыкнуў хтосьці, -*
*Дзед Мароз шыбуе ў госці!..*

*Дзед як выйшаў на паляну,*
*На звяроў з усмешкай глянуў:*
*— Не сумуйце! Як магу,*
*Вам, сябры, дапамагу.*

*Ёлку ён павварушыў,*
*Шэранню прыцярушыў*
*І паклікаў:*
*— Снегіры,*
*Не хавайцеся ў бары,*
*На паляну прылятайце*
*І на ёлачку сядайце!*

*Пpыляцелі снегіры,*
*Як чырвоныя шары,*
*І, нібыта на арэлі,*
*На галінкі важна селі.*

*Упрыгожаная ёлка*
*Зазіхцела, як вясёлка.*
*І запляскалі ўсе ў ладкі,*
*І наўкруг пайшлі ўпрысядкі...*

# Як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі







**Свэн Нурдквіст**
*Фота Стэфана Нільсана*

Гэта загаловак яшчэ адной кнігі Свэна Нурдквіста, у якой распавядаецца пра сяброўства дзівоснага дзядзькі і коціка. Як не цікава, кніжка пачынаецца з крыжаванкі, якую за сталом, пад мурлыканне коціка, рашае гаспадар. І гэта ўступ да здарэння, якое аднойчы здарылася на хутары дзядзькі Пэтсана. Усё гэта, як вы напэўна ўжо здагадаліся, адбываецца ў Швецыі, у краіне, дзе бацькі і дзяды любяць апавядаць казкі і чытаць кніжкі дзеткам. Крытыкі аднaзначна сцвярджаюць, што гэтая кніжка будзе цікавай для чытачоў ад 3 да 99 гадоў (!). Сапраўды так — кожны знойдзе тут шмат цікавага для сябе.

А гісторыя такая: Пэтсан жыве разам са сваімі курамі ў невялікім дамку на хутары. Але ён вельмі адзінокі. Аднойчы да яго прыходзіць суседка з маленькай скрыначкай. «Фіндус, Зялёны гарошак» — напісана на ёй вялікімі літарамі. Аднак там зусім не гарошак. А маленькі коцік! Ён, як дачытаеце самі, ведае больш, чым звычайны кот. Калі Фіндус апынецца ў небяспецы, яму будуць дапамагаць хатнія жывінкі, якіх не прыкмячае чалавек. Ды ўся небяспечная прыгода складзецца ў адмысловую загадку, прыдуманую жывінкамі для Пэтсана. Ён вымушаны адчытаць усе знакі і падказкі, інакш яго любімчык прападзе...

Апрача цудоўнага зместу, на старонках каляровыя і цёплыя малюнкі, якія адкрыюць яшчэ адзін незалежны расповед. Як не цікава, яны папярэдзілі змест гэтай кнігі, перакладзенай ужо на больш за 30 моў свету...

Свэн Нурдквіст нарадзіўся ў 1946 годзе ў Хельсінборгу ў Швецыі і на працягу ўсяго жыцця займаўся маляваннем. Працаваў архітэктарам, настаўнікам, ілюстратарам.

У 1983 годзе ён перамог у конкурсе выдавецтва «Opal» на лепшую праілюстраваную кнігу.

Яго гісторыі складаюцца ў серыю. З Пэтсанам і яго катом Фіндусам чытачы пазнаёміліся ўпершыню ў кнізе «Блінны торт». Пасля яны сталі героямі цэлай серыі.

Сёння прапануем вам адну гісторыю і мы ўпэўнены, што адразу будзеце шукаць чарговых прыгод Пэтсана і Фіндуса.

Кніжку «Як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі» пераклала на беларускую мову Надзея Кандрусевіч. Яна выйшла ў 2016 годзе ў падсерыі «Каляровы ровар».

З прыемнасцю паведамляем, што кнігі Свэна Нурдквіста можна выйграць у конкурсах «Зоркі»!

(гак)



Беластоцкія гімназісты з настаўніцай Альжбетай Рудкоўскай

Фота Ганны Кандрацюк



Вікторыя Гаць,
Пачатковая школа № 3
у Бельску-Падляшскім

## Непагода

З дрэў апаў апошні ліст,
Усюды плюха і балота.
Каб на вуліцы гуляць,
Не ідзе ахвота.
Вые вецер, хмары гоняць,
Сумна на двары ўсім.
Цёмна, бура і панурасць.
Дом – найлепшы для ўсіх.
Коцік просіцца да хаты:
– Упусці мяне, упусці!
Буду я спяваць мурчанку,
Каб спакой лёг на душы.

Алена ЦЕРАШКОВА

## Ю

Юрка – юнга з Юкатана –
любіць Юлю, Юну, Таню.
Юля Юркам пагарджае,
Юна і не заўважае.
Ты, Юрасю, не журыся,
А з Танюшай ажаніся!

## Я

Янот з палявання вяртаўся
вясёлы:
Пяць яблыкаў ён адшукаў
каля школы,
Пяць яшчарак смачных
злавіў на вячэру,
У Яся сцягнуў ажно
дзесяць пячэнняў!
А заўтра прапусціць янот
паляванне:
Нядзеля! Наладзіць сям'я
баляванне!

Паўліна ВЭПА
Тыльвіца
КШ у Міхалове

## Ідзе зіма

Усюды будзе бела,
Будуць мароз, вецер,
Снег прысыпле карчы
і дрэвы,
Не будзе птушыных спеваў.
Будзе пуста, будзе бела,
Снежную бабу будзем
ляпіць:
Вочы з вугельчыкаў,
нос з морквы.
А капялюш?



Грыша ХАРУЖЫ
ПШ у Міхалове

## Суровая зіма

Суровая зіма ляціць як пярун.
Зіма сапраўдная хуліганка.
Яна ўмее варажыць
Снегам, марозам ці віхурай.
Але толькі ўзімку гуляем
На санках, лыжах ці каньках,
Зімой можна гуляць у снежкі!
Я сапраўды люблю
гэту хуліганку...

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Вярблюд, воўк і лісіца

Вярблюд, воўк і лісіца ішлі дарогай і знайшлі бохан белага хлеба.

— Што нам рабіць? Яго ж не хопіць усім?

Ліса падумала і кажа:

— Правільна, гэта яда для адной асобы. Няхай з'есць той, хто са старажытнага роду.

Усе пагадзіліся. Першы адазваўся воўк:

— У мяне з вас усіх самая старажытная радаслоўная. Сам Ной у гады біблейскага патопу ўзяў на каўчэг ваўка. Вось, я — дапатопнае стварэнне...

А лісіца адразу ўваткнула свае тры грошы:

— Даражэнькі кумок, ты равеснік майго ўнука! А я — лісіца, якую стварыў сам Бог і перадаў мяне Адаму, які і назваў мяне ласкава лісіцай!

Тым часам вярблюд працягнуў шыю, ухапіў знаходку, узняў галаву і са смакам жуе хлеб:

— Навошта вы столькі балабоніце! Хто які — кожны бачыць! Падумаеце самі? Ці мае доўгія ногі маглі нарадзіцца з нейкага каратыша і малакасоса?

Воўк і лісіца закруціліся вакол вярблюда як злосны вецер, але нічога не маглі яму зрабіць.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## УВАГА КОНКУРС! № 02-18

**Днём акно разбіта, а за ноч устаўлена. ... у палонцы.**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 21 студзеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 51: лыжы. Узнагароды, аўтаручкі з вясёлай цацкай, выйгралі Оля Кардаш з Нарвы, Клаўдзія Скаласінская, Вераніка Вінская, Бартэк Гулевіч з Бельска-Падляшскага, Матэвуш Красько, Антаніна Варанчук з Арэшкава. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 02-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 51-17:**

Ас, нос, птах, асёл, снегавік, мінак, не, сука, хатка, ах. Яна, смех, сані, сенат, ёга, плакса, касілка, хек, ах.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Альжбета Лісоўская, Міхал Лаўнічук** з Нараўкі, **Міхась Тапалянскі, Карнэлія Вшэбароўская, Аліўка Порац** з Нарвы, **Вікторыя Гаць, Барташ Ваўранюк, Аляксандра Іванюк, Матэвуш Лапацюк** з Бельска-Падляшскага.

Віншуем!



„І кожны воін павінен думаць, што ён, як апошняя надзея гарадоў і вёсак за яго плячыма, што ён, як апошняя песня роднай зямлі. І ён павінен змагацца нават тады, калі ніхто больш не хоча змагацца, адзін супраць усіх. Павінен надарвацца, легчы на парозе, як Рэйтан".

**У. Караткевіч**

# І адзін у полі воін

Варшава. Каралеўскі замак. Пабудаваны ў 1598-1618 гадах каралём польскім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Вазам і да шчэнту зруйнаваны нацыстамі ў часы Другой сусветнай вайны. Месца, дзе некалі стаяў замак, пуставала да 1971 г., калі Сейм канчаткова адмовіўся ад плану будаўніцтва сучасных урадавых будынкаў на яго месцы і прыняў рашэнне аднавіць палац па фрагментах і фатаграфіях, якія захаваліся, па магчымасці надаўшы яму тую форму, якую, як мяркуецца, ён меў у пачатку XVII стагоддзя. Аднаўленчыя работы працягваліся да 1988 года. Цяпер у палацы размешчаны музей, дзе можна ўбачыць палотны Рэмбрандта і Матэйкі, старыя выгляды Варшавы пэндзля Бялота, а таксама ўрну з прахам Тадэвуша Касцюшкі.

У адным з пакояў музея размешчана вялікае 282 х 487 см палатно Яна Матэйкі, на якім адлюстравана адна з найвялікшых драм у гісторыі Беларусі (ВКЛ) і Польшчы, якая адбылася ў яго сценах 21 красавіка 1773 года.

З прыкладна 320 вядомых карцін Матэйкі менавіта гэта карціна, якая выклікала гарачыя спрэчкі ўжо ў часы яе стварэння, і сёння працягвае выклікаць эмоцыі.

Аказваецца, што эпізод з гісторыі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага на карціне Матэйкі ўздзейнічае на нас сёння мацней, чым дакументы, і працягвае ўносіць свой уклад у адраджэнне нацыянальнай свядомасці і пачуцця салідарнасці. А яшчэ, вырашае праблему барацьбы і ролі адзінкі ва ўмовах канфліктаў — усведамляный як этычная дылема кожнага чалавека ў асобнасці.

Калі карціна Яна Матэйкі «Рэйтан на сойме 1773 года» была паказана ў 1867 годзе на выставе ў Парыжы, дзе была ўзнагароджана залатым медалём, радавыя французы, мала знаёмыя з гісторыяй Рэчы Паспалітай, але наслуханыя пра норавы і паводзіны шляхты, лічылі, што на карціне намаляваны падпіты шляхціц, які прайграў у карты свой маёнтак... На вялікі жаль у сучаснай Беларусі многія такім жа чынам адбіраюць змест палатна!

Драматычная сцэна адлюстраваная на малюнку Яна Матэйкі «Рэйтан на сойме 1773 года», разгортваецца ў Каралеўскім Замку ў Варшаве трэцяга дня Сейма, які ў канчатковым рахунку прывёў да першага падзелу Рэчы Паспалітай. Рэйтан, пасол з Навагрудскага ваяводства, быў упаўнаважаны перш за ўсё адстойваць на Сейме інтарэсы ВКЛ, але разам са сваімі суайчыннікамі ён стаў на абарону незалежнасці ўсёй Рэчы Паспалітай, якую не знайшлося каму так адчайна бараніць.

Агрэсарам (Расея, Аўстрыя і Прусія) было важна, каб захоп зямель Рэчы Паспалітай быў «узаконены» рашэннем Сейму. Сейм павінен быў падпісаць згоду на захоп часткі тэрыторыі. Рэйтан рашуча выступіў супраць. Яго спрабавалі падкупіць, застрашыць, быў суд. Побач з ім стаялі Станіслаў Багушэвіч з Менска і Самуэль Корсак, сябар Тадэвуша Рэйтана. Яны стаялі непахісна. У будучым Корсак далучыўся да Касцюшкі і быў адметнай фігурай Паўстання. Багушэвіч карыстаўся вялікай пашанай у Менску і калі прыйшоў Напалеон, ён быў на чале дэлегацыі, якая сустракала імператара як вызваліцеля, які абяцаў аднавіць Вялікае Княства Літоўскае.

Матэйка намаляваў момант, калі паслы Сейма накіроўваюцца ў залу, каб паставіць подпісы, якія павінны зафіксаваць «падзенне Рэчы Паспалітай». Трагізм сцэны ўзмацаваны выглядам залы замка, дзе з карніза звісаюць абарваныя шторы, а на падлозе паваленае крэсла і раскіданыя ў беспарадку разнастайныя рэчы.

Тадэвуш Рэйтан, каб зрабіць немажлівым пераход дэпутатаў у залу сената, дзе мелі падпісаць акт захопу, кідаецца на



падлогу каля дзвярэй залы, разараўшы адзенне на грудзях з крыкам: «Забіце мяне, але не забівайце Радзіму!». Ён заклікаў «ранамі Хрыста, за іх укрыжаванага», не губіць душу і не прадаваць Бацькаўшчыну. На грудзях Рэйтана знаходзіцца ладанка кармяліцкая, якая з'яўляецца асаблівай праявай бязмежнага спадзявання на заступніцтва Багародзіцы.

Над Рэйтанам стаяць тры персанажы, вядомыя з гісторыі Польшчы як здраднікі народа. Апрануты ў белае ў чорным плашчы і з блакітнай стужкай на грудзях Шчэнсны Патоцкі (якому ў той час быў 21 год і ў зале сейма яго не было) панікпым тварам глядзіць у зямлю. Стоячы побач з ім, апрануты ў чырвонае, Адам Паніньскі са строгім выразам твару выцягнутай рукой паказвае на расейскіх салдат у суседняй зале. Справа ад Паніньскага схілены прыкрывае твар рукамі Франц Ксаверый Браніцкі. Гэтыя тры постаці з'яўляюцца сімвалам найвялікшай катастрофы Рэчы Паспалітай, якой быў касмапалітызм польскай шляхты, якая дзеля асабістай выгады без адзінага руху павекамі гатовая здрадзіць Радзіму.

Не яны адны былі, аднак, прычынай развалу краіны.

Матэйка спартрэтаваў шмат персанажаў, якія не прысутнічалі пры гэтай падзеі, але, як лічыў мастак, здрадзілі Радзіме. Побач з дэпутатамі сейма 1773 г. прысутнічаюць больш позвія праціўнікі Канстытуцыі 3 мая, аб'яднаныя ў Таргавіцкую канфедэрацыю ў 1792 г.

У левай частцы палатна вылучаецца фігура Франца Салезія Патоцкага. Ён намаляваны ў сабаліным футры, ідучым з невідушчым позіркам і працягнуўшы рукі, як сляпы. На яго грудзях намаляваны Ордэн Белага арла. Салезій Патоцкі на самой справе ў гэты дзень быў ужо мёртвы, аднак Матэйка намаляваў яго на палатне як сімвал адчаю і бяссілля найбуйнейшых польскіх магнатаў.

Справа бачная галава князя Караля Станіслава Радзівіла «Пане Каханку».

Злева ззаду ад Салезія Патоцкага ўзвышаецца фігура караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які трымае ў левай руцэ гадзіннік са збянтэжаным і бездапаможным выразам твару. Гэта, аднак, да яго працягвае рукі ў пошуках выратавання група дэпутатаў і накіроўвае позірк Гуга Калантай, але кароль не звяртае на гэта ніякай увагі.

Насамрэч Станіслаў Аўгуст Панятоўскі не прымаў удзелу ў Сейме, падобна, як і Рапнін, Шчэнсны Патоцкі ці Калантай.

За гэта крытыкі абвінавачвалі Матэйку ў фальсіфікацыі гісторыі падзення Рэчы Паспалітай, не разумеючы, што мэтаю мастака было паказаць прычыны ў факце не гістарычным, але «гістарыяграфічным», насычаным пазнейшым асэнсаваннем падзеі. Свядома ці несвядома яго пэндзлем кіравала пазачасовая ідэя.

У левым куце карціны сядзіць князь Міхал Фрэдэрык Чартарыйскі. Справа ад яго ў расшпіленай сутане Міхал Ежы Панятоўскі, брат апошняга караля польскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Над усімі высіцца партрэт рускай імператрыцы Кацярыны II з дзяржавай у руцэ, якога таксама ў зале не магло быць. Злева ад партрэта імператрыцы малады чалавек замахваецца шабляй у яе бок... Ён сімвалізуе будучую барацьбу за незалежнасць і надзею на вызваленне Рэчы Паспалітай. Побач можна ўбачыць яшчэ аднаго двараніна з паднятай уверх рукой. Гэта другі з дэпутатаў зямлі Навагрудскай Самуэль Корсак; таксама гэта аўтапартрэт Матэйкі.

У ложы ў асяроддзі двух дам намаляваны рускі пасол князь Рапнін Мікалай, па яго левую руку знаходзіцца княгіня Ізабэла Чартарыйская, палюбоўніца Рапніна. Па правую руку — княгіня Ізабэла Любамірская. Гэта яшчэ адна гістарычная вольнасць, у гэты час амбасадарам Расеі ў Польшчы ўжо быў барон Ота Магнус фон Штакельберг.

Матэйка спрабуе паказаць «усю паўнату гістарычнага факту», таму на карціне намалявана постаць ваяводы кіеўскага — бацькі Шчаснага — Францішка Валезага Патоцкага, вядомага ворага ўсякіх сувязей з Расеяй, хоць той ужо быў мёртвы на момант падпісання акта падзелу Рэчы Паспалітай (постаць з развеянымі валасамі, з жахам адлюстраваным на твары, пераварочвае ад злосці і пачуцця бездапаможнасці крэсла, сімвал паглумленага ўрада, з якога падаюць дакументы і кашалёк з грашыма — адна манета, сімвал здрады, коціцца да ног Паніньскага).

Цяпер карціна Матэйкі экспануецца пад назвай «Рэйтан. Заняпад Польшчы».

Няма дакладнай даты, калі карціна змяніла назву, але яшчэ ў 1938 годзе назва была першапачатковай.

1 снежня 1773 года Рэйтан склаў Маніфест, дзе канстатаваў нелегітымнасць трактатаў пра анексію зямель Рэчы Паспалітай.

Сучаснікі лічылі Тадэвуша Рэйтана нацыянальным героем. Чатырохгадовы Сойм 1788-1792 абвясціў Рэйтана «вартым нацыянальнай жалобы», а яго дзеянні — «узорам для перайманне». У Польшчы Рэйтан шанаваны ва ўсе часы. Але асабліва пасля здабыцця незалежнасці. Імя Рэйтана давалі вуліцам, школам, скаўцкім камандам. У польскай літаратуры Рэйтан стаў героем вершаў, п'ес, эсэ.

У розныя перыяды шанаваны і на Радзіме. У ягоны гонар у Ляхавічах, Баранавічах, Навагрудку і Менску называліся школы і вуліцы, узводзіліся помнікі і мемарыяльныя дошкі. Вядомыя ліцвіны XIX стагоддзя Адам Міцкевіч, Юліян Нямцэвіч, Генрык Жавускі і Францішак Смуглевіч прысвячалі Рэйтану і яго паплечнікам літаратурныя і мастацкія творы. На прыкладзе героя, які выратаваў гонар сваіх сучаснікаў, выхоўваліся пакаленні патрыётаў.

Але падчас акупацыі Расеяй імя Тадэвуша Рэйтана, менавіта тут, на яго Радзіме, апынулася амаль у поўным забыцці.

Першым яго імя спрабаваў адрадзіць Уладзімір Караткевіч. Ён двойчы ўзгадаў яго ў сваіх творах: у паэме «Радзіма» і ў рамане «Леаніды не вернуцца да Зямлі (Нельга забыць)».

У той жа час у выданні Акадэміі навук Беларусі „Нарысы гісторыі Беларусі (Мінск «Беларусь» 1994) прозвішча Рэйтан не ўспамінаецца. Няма Тадэвуша Рэйтана і ў Энцыклапедычным даведніку «Мысліцелі і асветнікі Беларусі X-XIX стагоддзі» (Мінск «Беларуская Энцыклапедыя» 1995). Толькі ў 6 томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» у 2001 годзе з'яўляюцца кароткія звесткі аб нацыянальным герої Тадэвушы Рэйтане.

Нарэшце ў XXI стагоддзі актывісты пачалі паслядоўна працаваць над вяртаннем нашага знакамітага земляка ў пантэон герояў нашай гісторыі.

У Альманаху «Тэксты», выдадзеным у 2014 годзе, большасць тэкстаў прысвечана Тадэвушу Рэйтану.

Калі ў 2010 годзе сядзіба Рэйтана апынулася ў спісе аб'ектаў, якія Міністэрства культуры было гатовае прадаць, зямляк Рэйтана, даследчык-архівіст Зміцер Юркевіч, забіў у званы. Разам з сябрамі ён стварыў арт-суполку імя Тадэвуша Рэйтана, каб вярнуць памяць пра яго беларусам. У гэтае нефармальнае аб'яднанне ўваходзяць гісторыкі, мастакі, музыкі.

15 студзеня 2015 г. у Мінску ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстава, прысвечаная 275-годдзю з дня народзінаў вялікага сына беларускай зямлі Тадэвуша Рэйтана.

У экспазіцыі, арганізаванай сябрамі арт-суполкі імя Тадэвуша Рэйтана Змітром Юркевічам і Алесем Родзіным, прадстаўлены прысвячэнні Рэйтану: творы сучасных беларускіх мастакоў, у тым ліку графічны шэраг Алеся Родзіна і Змітра Юркевіча «Род Рэйтанаў. Асобы. Падзеі», рэпрадукцыі твораў мастакоў XVIII-XX стагоддзяў, літаратурныя працы, у тым ліку створаныя пляменнікамі юбіляра — Станіславам Рэйтанам і Ганнай Герычовай з Рэйтанаў, фота і памятныя медалі з прыватных збораў і кнігасховішчаў НББ.

17 лістапада 2017 г. у філіяле «Мастацкі музей» (Брэсцкая крэпасць) адкрылася выстава «Тадэвуш Рэйтан — славуты сын Берасцейшчыны». На ёй прадстаўлена каля сарака палотнаў у рост чалавека з выявамі падзей Варшаўскага Сейма 1773 года.

Апагеем сталі выставы ў Нацыянальнай бібліятэцы, у Палацы мастацтваў, у Цэнтры сучаснага мастацтва і Доме-музеі Ваньковіча.

Ёсць спадзяванне, што сядзібу Рэйтанаў ў Ляхавіцкім раёне рэстаўруюць па праграме трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча-Беларусь-Украіна. Грант, выдзелены Еўрасаюзам беларускаму боку, складае 1 млн 187,5 тыс. еўра. Плануецца часткова рэстаўраваць сядзібны дом і правесці кансервацыю капліцы ў вёсцы Грушаўка.

Нягледзячы на разбурэнні, капліца ўражвае сваёй архітэктурай. Безумоўна, яна адна з самых прыгожых неагатычных збудаванняў у Беларусі.

Цяпер Грушаўка ў заняпадзе. Ад фрэсак на сценах і столі амаль нічога не засталося.

І надалей імя Тадэвуша Рэйтана для многіх беларусаў застаецца невядомым.

**Лявон КАРПОВІЧ, Луна-Воля**

# Як не верыць у шаптух!



Вера МАСАЙЛА
*Гайнаўка*




## Сцэна I

*Іграе музыка. У хаце бацька з маці развіваюць ніці з матушкі, дачка спрабуе ўцячы на спатканне.*

**Бацька:** Дочанька, а ты куды? (*Бацька хапае дачку Алёну за руку, яна сядае на крэсла)*

**Маці:** Зараз Міша прыедзе — твой каханы, а лепшага чым ён кандыдата на мужа не знойдзеш са свечкай: адзіны сын, мае асобную хату, свякруха не будзе табе ў гаршкі заглядаць, чаго ты яшчэ дзесьці шукаеш?

**Бацька:** Нікуды не пойдзеш! (*тупае нагою*)

**Алёна:** Нічога я, татачка і мамачка, не шукаю. Я толькі на адну хвілінку збегаю на другі канец вёскі да Сцяпанавых і аднясу пруткі, што ўчора на вячорках пазычыла, бо мае дзесьці закінуліся.

**Бацька**: Дзе ты так ілгаць навучылася? Была б яшчэ праўда — каб мне на далоні вярба вырасла!

**Маці**: Тры камплекты пруткоў у століку ляжаць. Нікуды не пойдзеш!

**Бацька:** Бачу, што без бацькоўскага пояса не абыдзецца! Можа ён цябе розуму навучыць.

**Алёна:** Прабачце! Абяцала — то аднясу! Пакуль! (*дачка ўстае і выбягае. Бацькі ўстаюць і ідуць у напрамку дачкі)*

**Маці:** Пачакай!

**Бацька**: Пастой! (*трымае ў руцэ папругу, махае бездапаможна рукой)*

## Сцэна II

*Іграе музыка. За вёскай Коля сустракаецца з Алёнай.*

*Коля нервова ходзіць і паглядае на гадзіннік.*

**Коля:** *(да сябе)* Павінна ўжо быць! *(дабягае Алёна ззаду і засланяе Колю вочы)*

**Коля:** Алёна!

**Алёна:** Колечка, мой саколік! Ледзь я ўцякла да цябе ад бацькоў. Пільнуюць мяне як моль кажуха.

**Коля:** А я ўжо думаў, што не прыйдзеш. *(Коля дае каханай кветку, якую трымаў ззаду)*

**Алёна:** Дзякую *(ціха)*.

**Коля:** Калі ласка *(ціха)*

**Коля:** Дрэнная справа, каханая. Людзі гавораць, што твае бацькі з бацькамі Мішы вырашылі аддаць цябе замуж за іхняга багацея — Мішу.

**Алёна**: Хочуць, хочуць за яго мяне аддаць. А праўду кажучы — з аднаго боку — ды гэта можа і добра...

**Коля:** Алёначка, кажаш добра, што выйдзеш за таго, каго не кахаеш? Ты чуеш, што ты гаворыш?

**Алёна**: Аж надта вельмі чую!

**Коля**: Каханая, не так мела быць! А што з намі будзе?

**Алёна**: З намі? Пабачыш, усё будзе як раней, а то і лепш.

**Коля:** Як гэта? Я ўжо зусім збаранеў. Ясней скажы.

**Алёна:** Я толькі ўслых мяркую... У мяне шмат планаў... можа быць цікава... адрэналін пойдзе ўгару!..

**Коля:** *(ціха)* Хадзі ў нашу шопку, раскажаш. Тут нас могуць падслухаць.

**Алёна**: Добра. *(Коля бярэ Алёну за руку і выходзяць)*

*Іграе музыка.*

## Сцэна III

*(Коля да публікі)*

**Коля:** І так Міша, якога я не цярплю, і яго няверная нарачоная Алёна, а мая каханая адгулялі сваё багатае вяселле. Не цешыўся толькі я, ды пакуль непатрэбна.

## Сцэна IV

*(За вёскай жанчыны з гэтай самай вёскі Надзя і Гандзя, нечакана надыходзіць маці Алёны)*

*Іграе музыка.*

*Смехі за заслонай.*

**Надзя:** Але ж у нашай вёсцы камедыя! Ты чула?

**Гандзя:** Штосьці не чула.

**Надзя:** Цікава, што будзе далей? Міша пасля шлюбу павёз у Гайнаўку здаваць бутэлькі з-пад аранжады, а ў жонкі ўжо гультай Коля з паўлітрам.

**Гандзя:** Не можа быць!?

**Надзя:** Як чуеш, можа! Слухай далей: Міша на базар патаргаваць — абібок Коля з украдзенымі кветкамі бяжыць да Алёны.

**Гандзя**: Украдзенымі з чужога агарода?

**Надзя:** А як бы інакш! Паслухай: Міша ў лес па дровы — бестурботны Коля на галаве стае, каб Алёне не было сумна.

**Гандзя:** Адкуль ты ўсё гэта ведаеш?

**Надзя:** Уся вёска аж трасецца ад смеху, толькі пра гэта гавораць.

**Гандзя:** А Міша дурань закаханы ў жонку — нічога не бачыць, ці не хоча бачыць; кажа што яму ўсе завідуюць прыгажуні і прыдумляюць брыдкія казкі пра яго жонку.

**Надзя:** Ды гэта не ўсё. Міша раз вярнуўся з лесу раней, заспеў каханкаў не скажу дзе... Коля і Алёна ўцяклі цераз акно да бацькоў Колі і там цяпер жывуць.

**Гандзя**: Гэта як у казцы!

**Надзя:** Сапраўды як у казцы, ды гэта не казка. А сваіх бацькоў Алёна зусім не прызнае. Як прычараваная.

**Гандзя:** Што ты скажаш!

**Надзя:** Ідзе маці Алёны. Маўчы!

**Маці:** Нічога, жанчынкі! Гаварыце, гаварыце. На жаль, гэта ўсё праўда.

**Надзя:** Людзі яшчэ прыкладаюць...

**Маці:** Нікому не забароніш гаварыць. Я ад турбот аж пасівела. А, падобна, мая дачка з гэтым, не скажу кім, мяркуюць выехаць яшчэ ў гэтым сорак шостым годзе ў Савецкі Саюз. Некаторыя сем'і ўжо выехалі.

**Гандзя:** Бедны Міша...

**Маці:** Ой, бедны. І так ён мяне і бацьку просіць, каб памагчы яму ўсімі сіламі затрымаць жонку, а нашу дачку, і раздзяліць яе з Колем. Бацюшкі ў трох цэрквах ужо моляцца аб абразумленні нявернай жонкі. Шкада слоў на турботы. Іду! *(Маці з карзінкай пакідае жанчын)*

**Гандзя:** Мне вельмі шкада Мішу і бацькоў Алёны. Яны такія вельмі добрыя людзі. Кажа... моляцца... Малітвы ніколі не замнога, ды можна ім як падказаць, каб паспрабавалі якіхсьці іншых спосабаў, у якія не ўсе вераць, а некаторыя кажуць, што гэта грэх. Сама не ведаю...

**Надзя:** Ты добра, Гандзя, прыдумала. Спрабую вечарком пагаварыць з бацькамі Алёны.

*Іграе музыка*

## Сцэна V

*(Маці да публікі)*

**Маці:** Як чалавек топіцца, то брытвы хапаецца... Даражэнькія! Дзе мы са сваёй бядой не былі. Наведалі шаптух у Стаўпцах, Дубічах, Грабаўцы, Орлі і ўсе іншыя навокал. За радай і дапамогай гэтых бабуль удалося мне запрасіць дачку да роднае хаты і пачаставаць яе замоўленымі пранікамі і вадой. Самі пабачце.

*(Маці не сыходзіць са сцэны, толькі рыхтуе стол. Іграе музыка. Бацька ўносіць драбіну і хамут)*

*Іграе музыка*

## Сцэна VI

*(у хаце — Маці, Бацька частуюць дачку чаем)*

**Маці:** Дочанька дарагая! *(Маці абдымае дачку)* Як добра, што ты аднак паслухала мяне і прыйшла перад выездам у Савецкі Саюз з намі развітацца і выпіць чай.

**Алёна:** Дзякую, мамо! Сяду, нап'юся з вамі гарбаты.

**Маці:** Сядай, сядай, калі ласка! *(дачка сядае, Бацька засланяе Маці перад дачкой, якая дālівае замоўленую ваду ў гарбату)*

**Бацька:** *(гладзіць дачку па плячы)* Ты мая кветачка! Ты мая ружа! Як добра цябе зноў бачыць у роднай хаце. Я для цябе, родненькая, аддаў бы апошнюю сарочку.

**Алёна:** То пазвольце мне жыць як хачу і з кім хачу. *(дачка ўстае)*

**Бацька:** Пазволім, пазволім.

**Маці:** Будзеш сабе жыць як хочаш. Сядзь, прашу! Вазьмі пранік, калі ласка! *(Маці частуе дачку, усе п'юць гарбату)*

**Бацька:** Нагрэйся гарачым чаем...

**Маці:** Алёначка! Каб вам з Колем у жыцці шанцавала, пералезь цераз хамут, а потым цераз драбіну.

**Алёна:** Няхай вам будзе. *(Бацька з дачкой устаюць і ён працягвае Алёну праз хамут — тым часам Маці нябачна працягвае па ёй «чарамі» і кідае за сябе. Бацька працягвае Алёну праз драбіну, а Маці ззаду пырскае на дачку «цудоўнай» вадой)*

**Алёна:** У хаце дождж ідзе?!

**Маці:** Табе так толькі здалося.

**Бацька:** Можа дзе дошку вецер адарваў. Потым падаб'ю.

**Маці**: Едзь сабе з Колем куды захочаш, ды вазьмі з дому хоць лепшыя боты і вопратку.

**Бацька:** *(Дае дачцэ чамадан)* Яны тут!

**Алёна:** Дзякую! На мяне пара! *(развітваецца з маці, ставіць на зямлі чамадан)*

**Маці:** Шчаслівай дарогі, Алёначка!

**Алёна:** Дзякую. *(Бацька бярэ чамадан і, выходзячы за Алёнай, кажа)*

**Бацька:** Няхай цябе, дочанька, Бог не пакідае

*Маці момант глядзіць за імі і выносіць за параван паднос з гарбатай.*

*Іграе музыка.*

## Сцэна VII

*(да публікі выходзяць па чарзе Коля, Надзя, Алёна, Маці, Гандзя, Бацька)*

**Коля:** Ну я як думаеце, памагло?

**Надзя**: А як жа, памагло!

**Алёна:** Мы паехалі з Колем на граніцу, ды там былі праблемы і мы адклалі выезд у Савецкі Саюз на тры тыдні.

**Коля:** А праз тыдзень *(махае рукой)* яна мяне ўжо пакінула і вярнулася да мужа, а я паехаў адзін.

**Маці:** Нядаўна Алёна нарадзіла дачку, а Міша хоць не ведаў, ці ён бацька, выхоўваў яе і кахаў як сваё роднае дзіця.

**Гандзя:** Міша ніколі не перастаў кахаць і шанаваць сваю шлюбную.

**Алёна:** Я хаця пазней, ды шчыра пакахала мужа, нарадзіла Мішу яшчэ сына і пражылі мы ў шчасці і здароўі доўгае жыццё.

**Коля**: А я за мяжой пазнаў другую — таксама Алёну. Ажаніўся. Як бачыце, яшчэ жыву. Ды Алёна нумар адзін часта мне снілася. Немагчыма бачыць чужыя сны і, на маё шчасце, мая жонка пра іх не ведала.

**Маці**: Ну і як тут не верыць у шаптух!

**Надзя:** Мішу мы не паказалі, каб якаясьці жанчына з глядзельнай залы яго не прычаравала.

*Іграе музыка, да стаяўшых акцёраў даходзіць Гарманіст іграючы на гармоніку і ўсе кланяюцца.*

Асобы: Алёна (дачка), Маці, Бацька, Коля, Надзя — жанчына з вёскі, Гандзя — жанчына з вёскі, Гарманіст з гармонікам

# Засталіся адно ўспаміны (34)

У Мокрым, як і суседніх вёсках (Кнарыды, Дубяжын, Краснае Сяло), дзе мы заязджалі з кінаперасоўкай, у пачатках шасцідзясятых гадоў не было электратоку. Карысталіся мы агрэгатам. Вёска немалая, задбаная. Жыхарам нядрэнна жылося, бо зямля тут ураджайная, збіралі багаты плён. Апрача вырошчвання сельскагаспадарчых культур і жывёлагадоўлі сяляне займаліся вытворчасцю саламяных мат (цыновак). Кожны вытворца быў членам кааператыва «Цэпэлія», штогод плаціў назначаныя членскія ўзносы. У сяле была чатырохкласная школа, вясковая крама і святліца, у якой дэманстравалі кінасеансы. Горш было ў зімовы час. Святліца была неацеплена. Але макране грошай на кіно не шкадавалі. Прысутнасць гледачоў была вялікая. У навучальным годзе арганізавалі ранішнікі для школьнікаў (школа межавала са святліцай). У вёсцы была добраахвотная пажарная каманда. Начальнікам, памятаю, быў Рыжык (імя не захавалася ў памяці). Ён штампаваў нам бланкі службовай камандзіроўкі. Непадалёк ад святліцы пажарнікі збудавалі супрацьпажарны басейн і абгарадзілі яго сеткай.

У Мокрым я хутка пазнаёміўся з жыхарамі. Маімі кампаньёнамі для сяброўскіх сустрэч сталі Сцянан Нікіцюк, які настаўнічаў у Малінніках, Янка Нікіцюк, мясцовы земляроб і Сцяпан Гуральчук, які працаваў на пункце скупкі бульбы ў Кляшчэлях — задушэўны калега. У пазнейшых гадах ён пераняў камандаванне над пажарнікамі мясцовай каманды. Неаднойчы я гасцяваў у іх на прыхадскім фэсце на Ілью. Пасля некалькіх гадоў я меў ужо сваякоў — сяструу жонкі Вольгу Гуральчук, швагра Лёніка і пляменнікаў Валіка і Юрку. Затым заходзіў да іх паабедаць і на начлег. Зрэшты, усе жыхары вёскі добразычліва ставіліся да кіношнікаў. Не было праблемы з пастаўкай для нашай кухні гародніны, малака, аржанога хлеба ці фруктаў у летнім сезоне. Таго нам не шкадавалі.

З Мокрага захаваўся ў маёй памяці самы лепшы ўспамін з працы ў ВПК. Прыпамінаю такое здарэнне. Калі мы сядзелі на адвячорку ў машыне перад вячэрнім сеансам, зайшла высокая з кучарамі жанчына і, звярнуўшыся да мяне, кажа:

— Ты, будзеш, Уладэк?
— Я, Уладэк, — адказваю.
— Запрашаю на вячэру.
— А з кім маю гонар гаварыць?
— Я — Гандзіна сястра, твая швагерка...

Вось такім чынам я пазнаёміўся са сваякамі ў Мокрым. З таго часу мінула амаль пяцьдзесят гадоў. У вечны спачын адышлі швагерка Оля з мужам Лёнікам, ды іхні старэйшы сын Валік, які ажаніўся ў Грабаўцы. Застаўся адно ў Мокрым нежанаты Юрка. Здольны хлапец, адно ў жыцці яму не пашанцавала. Але ён не прадбачыў наканавання свайго лёсу. Так то ў жыцці ўжо бывае...

(працяг будзе)

❖Тэкст і фота **Уладзіміра СІДАРУКА**



Маладыя кадры пажарнікаў з Мокрага. Першы злева Сцяпан Гуральчук, начальнік ОСП.



Янка Нікіцюк (першы справа) з калегамі. Здымкі з 2000 года.

# http://a4games.by

Доўгімі зімовымі вечарамі, асабліва напярэдадні выхадных, прыемна бавіць час у сямейным коле ці ў кампаніі старых сяброў і знаёмых. Цёплы глінтвейн альбо гульня ў карты спрыяюць добрай няспешнай размове, але яны наўрад ці магчымы, калі побач дзеці, бо іх таксама неяк трэба далучыць да агульнага дзеяння. Падаецца, што найбольш для такога падыходзяць разнастайныя добрыя настольныя гульні.

Шчыра кажучы, у беларускіх крамах знайсці беларускамоўную настольную гульню практычна немагчыма, бо іх там папросту няма. Настольныя гульні спрэс завезены ў большасці з Расіі, таму нават калі яны носяць нейкі развіваючы характар, то развіваюць дзяцей як грамадзян менавіта гэтай краіны.

Як і ў выпадку з беларускай мовай, на якую дзяржаўнай беларускай уладзе глыбока напляваць, за справу вырабу настольных гульняў бяруцца энтузіясты, што да ўсяго маюць яшчэ і прадпрымальніцкую жылку. Такія, як напрыклад, гарадзенцы, згуртаваныя ў творчае аб'яднанне „А-чатыры" (А4). Каб бліжэй пазнаёміцца з імі, варта зазірнуць на сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://a4games.by.**

«„А-чатыры" — гэта творчая камантда аўтараў і дызайнераў з Гародні, што займаецца выданнем, папулярызацыяй настольных гульняў у Беларусі. Наша праца — гэта тое, што мы сапраўды любім. І таму — укладаем у яе ўсе нашы ідэі, высілкі, таленты і гэту бязмежную любоў да настольных гульняў"», — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта, які сучасна сканструяваны, выглядае прывабліва і падахвочвае пазнаёміцца з настольнымі гульнямі, якія ў „А-чатыры" называюць лепшымі.

Выйсці на рубрыкі сайта месяцца з левага боку выяўлення. Першай рубрыкай ідзе „Мова. Буслік — перадзамова". „Настольная гульня „Мова. Буслік" — працяг нашага праекта „Мова", але зараз — для самых маленькіх. Гэта серыя гульняў, якая будзе знаёміць не толькі з літарамі, але і з цікавымі беларускімі словамі, а розныя варыянты правілаў зробяць яе даступнай для дзяцей рознага ўзросту — ад 3 да 10 гадоў", — тлумачаць сэнс свайго новага вырабу сябры творчага аб'яднання. Дарэчы, ён не застаўся па-за ўвагай медыяў. „Гульню „Мова Буслік" можна будзе замовіць не толькі на сайце кампаніі А4 ды ў сацыяльных сетках, але і ўбачыць на паліцах сеткі крамы для дзетак „Буслік", якая і стала спонсарам стварэння гэтай беларускай настолкі", — распавядае пра гульню Радыё „Рацыя".

Для таго, каб пазнаёміцца з іншымі вырабамі ад „А-чатыры", трэба зазірнуць у рубрыку „Каталог". Пачынаючы ад 2013 года, калі была створана іх першая гульня „Паўстанцы", колькасць іх значна павялічылася. Сёння на сайце можна пабачыць больш за дзясятак такіх гульняў, сярод якіх „Беларускія ігральныя карты", „Замкавая вежа", гульня для дарослых „Мова", набор драўляных дэталяў для будавання „На трох кітах" і іншыя. „У бліжэйшы час мы плануем выпусціць каля 10 новых настольных гульняў, над распрацоўкай якіх працуем у дадзены момант. З большасцю нашых праектаў ужо зараз можна пазнаёміцца на старонках нашага сайта", — абяцаюць на старонцы „У распрацоўцы" сябры „А-чатыры". Дарэчы, з гэтымі цікавымі людзьмі, якіх шасцёра, можна завочна пазнаёміцца, зазірнуўшы ў рубрыку „Каманда".

❖**Аляксандр ЯКІМЮК**

**Дата з Календара**

## Падзеі і асобы БНР

### 14 студзеня — дзень нараджэння

# Канстанцыі Буйлы

У час фармавання і абвяшчэння БНР у беларускім руху было не так шмат жанчын. Пра адну з іх — у гэтым выпуску календара тыдня. 14 студзеня спаўняецца 125 гадоў з дня нараджэння беларускай паэткі Канстанцыі Буйлы (у большасці крыніц яе прозвішча падаецца як „Буйло"), айчыннай творцы, якая перажыла некалькі эпох і была сведкай многіх падзей. Нарадзілася яна ў Вільні ў 1893 г., там жа атрымала сваю першую адукацыю. Бацька будучай паэткі працаваў аб'ездчыкам коней ні то ў графа Тышкевіча, ні то ў князя Гагарына, а пасля пераезду ў мястэчка Вішнева Ашмянскага павета стаў арандатарам. Буйла, скончыўшы ў Вільні настаўніцкія курсы, працавала ў школе на Лідчыне, загадвала беларускай кнігарняй у Полацку. Пасля таго як кнігарня зачынілася, перайшла на працу ў земскі саюз. У 1923 г. лёс закінуў яе ў Маскву. З 1933 г., калі яе муж Віталь Калечыц патрапіў пад сталінскія рэпрэсіі, працавала на заводзе. Усё далейшае жыццё паэткі прайшло ў Маскве, дзе яна была на службе ў розных прамысловых установах. Вершы на чужыне не пісаліся.

Як і многія іншыя беларускія творцы Канстанцыя пачала друкавацца ў віленскай „Нашай ніве". Газету выпісваў бацька, праз гэта Канстанцыя зацікавілася беларушчынай. Прычым першыя вершы былі змешчаны пад імем яе брата Эдуарда. Юнай творцы тады было 16 гадоў. Паэтка сталела разам з легендарнай газетай. Першы зборнік паэзіі Буйлы „Курганная кветка" выйшаў у Вільні ў 1914 г. у легендарнай друкарні Марціна Кухты. Рэдактарам зборніка быў Янка Купала. Канстанцыя сябравала з ягонай жонкай — Уладзіславай Луцэвіч. А афармляў „Курганную кветку" (яна была выдрукавана таксама факсімільна ў 1989 г.) Язэп Драздовіч. Янка Купала звяртаўся да яе так: „Пішыце яшчэ і яшчэ!" і прысвяціў Буйле верш „Мая думка". У тым жа 1914 г. Канстанцыя па рэкамендацыі Алаізы Пашкевіч узначаліла беларускую кнігарню ў Полацку.

Пазней, цягам розных гадоў, у паэткі выйшаў яшчэ дзясятак паэтычных зборнікаў, сярод якіх і кніжка вершаў для дзяцей „Юрачка". Максім Гарэцкі лічыў Канстанцыю Буйлу „найбольш выдатнай пасля Цёткі жаночкай сілай у нашай паэзіі". Мела прызнанне паэтка і ад улад БССР, якія ўганаравалі яе тытулам заслужанай дзяячкі беларускай культуры, хоць у савецкі час яе і папракалі ў празмерным беларускім патрыятызме. Можа таму спадарыня Канстанцыя і адмовілася святкаваць у 1968 г. свой юбілей. Ёй было гэта непатрэбна. Напэўна ў чужой Маскве паэтка адчувала сябе птушкай з падрэзанымі крыламі. Яна так і заявіла: „Што адзначаць? — Што з плеяды нашых пісьменнікаў адна засталася, як сасна на галявінцы, хістацца над магілай ссечаных дрэваў?".

У творчасці Канстанцыі Буйлы знайшлі шырокае адлюстраванне фальклорныя матывы. А адзін з яе вершаў „Люблю наш край, старонку гэту", які паклаў на музыку Мікола Равенскі, стаў народнай песняй. Ці ж не найвялікшае гэта прызнанне для творчай асобы. Менавіта Канстанцыя Буйла выкарыстала ў дачыненні да Беларусі эпітэт „сінявокая", які трывала замацаваўся ў літаратуры і звычайнай мове.

Канстанцыя Буйла амаль дажыла да незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Памерла яна ў 1986 г. у разгар „перабудовы" ў Маскве. Урна з парэшткамі была прывезена ў Беларусь і пахавана на могілках у Вішневе (Валожынскі раён). Мясцовая вішнеўская школа носіць яе імя.

❖**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Пенсіі палякаў

ЗУС сістэматычна інфармуе аб узроўні сярэдняй пенсіі палякаў. Зараз яна складае суму каля 2100 злотых. Гэтакай стаўкай могуць пакарыстацца нешматлікія, напрыклад, Марыля Радовіч штомесячна атрымлівае 1600 зл., або Антоні Мацярэвіч, які па-за міністэрскай палучкай, атрымлівае каля трох тысяч пенсіі. Для 140 тысяч чалавек грошы такія недасяжныя. Найбольшай пенсіяй карыстаецца жыхарка Быдгашчы, больш за 20 тысяч зл. Самая нізкая квота, якую выплачвае ЗУС, гэта 4 грошы. Такіх абсурдных фактаў можна прыводзіць больш. Тыднёвік «Факт» на аснове даных ЗУС апрацаваў парадунне, якое даказвае, што ў кожным горадзе знойдзецца пенсіянер з грашовай пенсіяй. У Вроцлаве, напрыклад, самы «бедны» пенсіянер атрымлівае 20 гр., у Быдгашчы — 82 гр., у Любліне — 7,27 зл., у Лодзі — 99 гр., а ў Забжы — 1,08 зл. Так нізкія выплаты вынікаюць з прычыны вельмі кароткага стажу працы або браку адпаведных дакументаў.

Становўчай часткай падборкі, паказанай «Фактам», з'яўляюцца пенсіі больш за 10 тысяч зл., якія падмацаваны дакументамі аб даўжэйшым, чым 50- або 60-гадовым стажы працы. Найбольш «аплатным» пенсіянерам з'яўляецца згаданая жыхарка Быдгашчы, якая выйшла на пенсію ва ўзросце 81 год. Самымі высокімі пенсіямі карыстаюцца жыхары Шлёнскага ваяводства (у сярэднім 2626,12 зл.), а ў Падкарпацкім ваяводстве сярэдняя пенсія складае 1905,37 зл.

Палітыкі, якія маняць выбаршчыкаў абяцанкамі, не наракаюць на свае пенсіі. Яраслаў Качынскі пенсіянерам з'яўляецца ад мінулага года і штомесячна задавальняецца выплатай каля 3200 зл. Такую ж стаўку неўзабаве дасягне Антоні Мацярэвіч. Значна меншыя пенсіі атрымліваюць артысты, якім плацілі перш за ўсё за канцэрты, выступы або спектаклі і не адводзілі ад гэтага страхавых узносаў, напрыклад, згаданая ўжо Марыля Родовіч, ці Бэата Тышкевіч (1350 зл.).

Апрацаваў **Уладзімір СІДАРУК**

# Платныя фольгавыя пакеты

З пачаткам студзеня 2018 года будзем плаціць за фольгавую ўпакоўку. Гэта вынік навелізацыі закона аб ахове асяроддзя. Таго патрабаваў Еўрасаюз. Зараз пры закупцы ў кожнай краме за фольгавы пакет заплацім 20 грошаў. Бясплатнымі будуць адно тонкія пакецікі для ўпакоўкі гароднін, мясных вырабаў або прадаванага тавару навалам. Еўрасаюзны закон зводзіцца да меншага расходавання торбачак і выкарыстання сумак для шматразовага ўжытку. Дагэтуль палякі найбольш у Еўропе карысталіся бясплатнымі фольгавымі пакетамі. Каб не плаціць за торбачку, хопіць адно забраць сваю з дому. Дзяржаўны бюджэт папоўніцца гэтым самым на 1,1 мільярда злотых. На што будуць прызначаны здабытыя грошы за ўпакоўку, пакуль што не вядома, напэўна не трапяць у ведамства ахоўы асяроддзя.

**(ус)**

## Паглыбляй свае веды

# Рабіннік

Рабіннік — птушка сям'і дразддовых, атрада вераб'інападобных. У нас прылётныя, пералётныя і часткова зімуючы від. Пашыраны ў Еўразіі.

Рабіннік насяляе ўзлескі лісцевых, мяшаных і хваёвых лясоў, рэдкалессі, даліны рэк, паркі, вялікія сады. Корміцца насякомымі, іх лічынкамі, чарвякамі, дробнымі малюскамі, зрэдку жабянятамі, восенню і зімой ягадамі.

Даўжыня цела рабінніка — каля 25 сантыметраў, маса 85-103 г. Апярэнне галавы, шыі, часткі спіны попельна-шэрае. Спіна, плечы і частка крыла каштанавыя. Горла вохрыстае, з падоўжнымі чорнымі палоскамі. Валяк і грудзі рыжавата-вохрыстыя з чарнаватымі стракацінамі, накіраванымі верхавінай уніз. Брушка і падпаха — белыя. Хвост і крылы — чарнавата-бурыя. Дзюба цёмна-бурая, з жоўтай асновай, ногі чорныя.

Большасць рабіннікаў прылятае ў канцы красавіка. Песня рабінніка грубая, са скрыпучых, траскучых і флейтавых гукаў і шчэбету.

Рабіннік — вельмі мітуслівая і крыклівая птушка. Крык — „чык-чык-чык", пры небяспецы — траскучае „ра-ра-ра".

Рабіннік селіцца парамі або калоніямі да 30 пар і больш. Гняздо будуе звычайна ў разваліне ствала дрэва, радзей на бакавых галінах, на вышыні ад 2 да 14 метраў (адзначаны выпадкі гнездавання на платах і на зямлі), масіўнае, паўшарападобнае, са сцёблаў травы, карэньчыкаў лісця, змацаваных глебай або ілам. Высцілка гнязда рабінніка — з дробных сцёблаў і былінак.

Першая кладка яек — у канцы красавіка-маі, другая — у канцы чэрвеня або ў ліпені, па 4—7, светла- або блакітна-зялёных, з карычневымі плямінкамі. Яйкі наседжваюцца 10-11 сутак. Птушаняты рабінніка пакідаюць гняздо праз 11 сутак не здольнымі лятаць.

Рабіннік адлятае ў кастрычніку, зімуе ў Цэнтральнай і Паўднёвай Еўропе.

**(а—яц)**

# ЗАПРАШЭННЕ



Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы

запрашае на

**XIX ПРЭЗЕНТАЦЫІ КАЛЯДНЫХ КАЛЕКТЫВАЎ „ГВЯЗДА І КАЛЯДКА"**
з удзелам дзяцей, моладзі і дарослых

14 студзеня 2018 г. у 15.00 гадзін
Клуб вайсковай адзінкі № 3519
(былы Гарнізонны клуб)
у Беластоку,
вул. Кавалерыйская 70

УВАХОД СВАБОДНЫ

# Адгаданка

**1.** лік у... Дзмітрыя, **2.** сталіца Малаві, **3.** злакавае збожжа, з зярнят якога варылі кісель, **4.** першы і апошні гук музычнай гамы, **5.** буйная жвачная жывёла з Цэнтральнай Азіі ў... паляка, **6.** акіян між Старым і Новым Светамі, **7.** зашклёная створкавая рама для абразоў, **8.** дзяржава з Найробі, **9.** вынік працы творцы, **10.** Адам Ганоры, беларускі этнограф (1818-1886), **11.** „слепаватае" насякомае, якое жывіцца кроўю жывёл і чалавека, **12.** прастора якую можна ахапіць зрокам або ўяўленнем, **13.** невялікая вельмі рухавая рыба, чалавек, звярок, **14.** агромная афрыканская пустыня, **15.** фабрыка, **16.** возера, якое ў Беларусі лічыцца цэнтрам Еўропы.

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | | | 2 | | | | | 3 | |
| | | | | | | | 4 | 5 | | | | | | | |
| 6 | | 7 | | 8 | | | 9 | 10 | | | | 11 | 12 | | |
| | | | | | | | | 13 | | | | | 14 | | |
| | | | 15 | | | 16 | | | | | | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 52 нумара**

Пяць, помнік, картограф, водар, азіміна, дыяліз, спартсмен, Кракаў, фашыст, ракета, галеча.

Рашэнне: **Не помніць карова зімы, дачакаўшыся лета.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.


Ніва — ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.


# 14.01 — 20.01

**(22.03. — 20.04.)** Цяжкавата. Трэба будзе падвоіць ці патроіць высілкі! Не паддавайся перашкодам (пад канец месяца выйдзеш на простыя шлях). 14-15.01. не рабі нічога, да чаго цябе намаўляюць; лепш не запрашай гасцей. Эмацыянальная гайданка, пасля 18.01. скажы ўсё ж «пабач». На працы змабілізуйся і пазмагайся за тое, што табе належыцца. Баран з другой дэкады няхай лепш звернецца яшчэ да іншага лекара.

**(21.04. — 21.05.)** Добры настрой і форма. Не занядбоўвай важных спраў, жыццё пойдзе ў добрым напрамку. Больш жыццярадаснасці. Самотныя Быкі будуць цешыцца вялікай папулярнасцю. 14-15.01. могуць табе падзейнічаць на нервы блізкія асобы. Пасля 18.01. на сямейныя праблемы глянеш з іншай перспектывы і вырашыш іх у нетыповы спосаб.

**(22.05. — 22.06.)** 14-15.01. — не найлепшы час на новыя знаёмствы. 18-21.01. адсвяжыш файнае знаёмства. 14.01. мала шчасця ў гульнях і бізнесе. Думкі пра знаёмых і членаў сям'і захавай для сябе. Але і не дай жартаваць з сябе. Не шыкуецца большыя выдаткі, але грошай менш. На працы кантроль. Пры інвестыцыях не кіруйся абяцаннямі, а рэаліямі. Не разлічвай на залатыя горы. Не атруціся нездаровай ежай.

**(23.06. — 23.07.)** 14.01. не бяры ў сэрца прыкрых слоў. 16-18.01. без высілку даб'ешся прызнання і захаплення. Будзеш больш баявіты і ўпэўнены. Не дасі сабе ўлезці на галаву. Хаця прыйдзецца перамагчы шмат перашкод і працаўнікаў. Дасі рады! Мілая сустрэча з сябрамі можа замяніцца ў арэну. Амбіцыі хопіць, але твая ўражлівасць можа не вытрымаць працяглага сапернцітва. Найлепш усе дзеянні падзялі на этапы. Нервы разгрузі фізічна.

**(24.07. — 23.08.)** 14-15.01. выявіцца ўся праўда пра тваю пару. На складанні адносіны са знаёмымі глянь з адлегласці. Не паддавайся эмацыянальным гульням і шантажу. Ільвы з апошніх дзён знака могуць разлічваць на асаблівыя бонусы ад лёсу (ігранце ў латарэю, паказвайце свае ідэі і задумы, высылайце Сі-Ві...). Апошнія няхай пільна працуюць. Асабліва 14-16.01. прымайце ўсе прапановы, за якія не ўзялася канкурэнцыя — будзеце ў выйгрышы. З 20.01. узрасце твой рэйтынг у грамадзе.

**(24.08. — 23.09.)** Хутчэйшы тэмп. Не будзеш пераймацца абы-чым. Возьмешся за новыя выклікі. Добры настрой, працэйшае здзяйсненне мар. Сімпатыя, новыя знаёмствы. Шчыра паразмаўляй з партнёрам (асабліва 14.01.). Не сып солі на старыя раны, каб не страціць прыгожай сустрэчы 18-21.01. Да 17.01. ідзі на прыхарошваючыя працэдуры (асабліва з зубамі).

**(24.09. — 23.10.)** 14-15.01. у тваёй пары адносіны завіснуць на валаску. Можа таксама вызваліцца вялікае пачуццё. І ўрэгулююцца адміністрацыйныя і юрыдычныя пытанні. Пасля 18.01. мноства дамска-джэнтльменскіх атракцыёнаў. Дзякуючы трапным выбарам атрымаеш большую свабоду дзеянняў і адкрыеш для сябе новыя перспектывы. Можаш пазмагацца за большыя грошы. Варушыся, пі зёлкі, масіруйся эфірнымі алейкамі.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш дзейнічаць з вялізнай энергіяй, нават адчаем. Сягнеш па прэстыж і ўладу. Выдатныя задумы, падтрымка сяброў. Важныя справы абгавары з 18.01. (да 21.01.), больш націск пакладзі на сямейныя справы. У прафесіі мусіш засяродзіцца, і не выбягай за далёка думкамі. А будзеш марыць і схочацца рэалізаваць свае мары, нават коштам крэдыту. Мерай часта ціск крыві. Пі зялёную каву і белую гарбату.

**(23.11. — 22.12.)** Пазбягай падазроных інтарэсаў і канфліктаў з калегамі асабліва 14-16.01. Праблемы цябе абмінуць, а грошай прыбудзе. Але не шукай цяпер кахання, бо можаш кепска трапіць. Да 17.01. у сардэчных справах увогуле засуха. Але абяцаюцца грошы. Частуйся горкім шакаладам.

**(23.12. — 20.01.)** 14-16.01. нервовая атмасфера дома. Да 17.01. ты пестунок Венеры — шчаслівы час у кампаніі і гульнях. Добрая форма. Казярогі з II і III дэкады маюць шанцы на найбольш шчаслівыя адносіны. Але 14-15.01. дакучаць будзе зайздрасць партнёра. 18-20.01. выдатна асабліва ў бізнесоўцаў, невядома куды дзяваць грошы!

**(21.01. — 19.02.)** 14-15.01. грошы будуць проста выцякаць спаміж пальцаў. Каля 18.01. сутыкнуцца дарогі твая і кагосьці асаблівага (няхай тая асоба зробіць першы крок). Пасля 20.01. распагодзіцца над табою неба, а канфлікты самі знойдуць развязку.

**(20.02. — 21.03.)** 14.01. магчымыя непаразуменні з партнёрам. Будзеш моцны і заўзяты, але і рамантычны. 14-15.01. ты вельмі прынадны для іншага полу (13-14.01. забяспечся!). 18-21.01. стой на сваім, бо маеш рацыю. Вельмі сачы за ўсім пры пакупках. Не сядай на халоднае.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**



# У Марфа-Марыінскім манастыры на Святой Гары

Народны ўніверсітэт (Wszechnica) праваслаўнай культуры гэта цыкл дакладаў, арганізаваных Беластоцка-Гданьскай епархіяй, кафедрай праваслаўнага багаслоўя Універсітэта ў Беластоку і Галоўнай управай Праваслаўнага брацтва святых Кірылы і Мяфодзія. Адкрытыя даклады праводзяцца ў Цэнтры праваслаўнай культуры Беластоцка-Гданьскай епархіі ў Беластоку, па вуліцы св. Мікалая 5 і збіраюць поўную залу зацікаўленых слухачоў. Беластачане 28 снежня 2017 г. шматлюдна выслухалі выступленне манахіні Агніі (не магла прыбыць ігумення Ірміёнія) пра манастыр святых Марфы і Марыі на Грабарцы — «70 гадоў жыцця і малітвы». Наступны даклад універсітэта — 28 студзеня 2018 г. — будзе спалучаны з прэзентацыяй кнігі «Гісторыя беларусаў Падляшша» Алега Латышонка (у 18.00 г.).

**Святая Гара Грабарка** — праваслаўная святыня, распаложаная недалёка ад гарадоў Сямятычы і Драгічын у паўднёва-ўсходняй частцы Беласточчыны. Тут нясуць служэнне манахіні з манастыра святых Марфы і Марыі. Грабарка — сэрца Праваслаўнай царквы ў Польшчы. Тут адбываюцца ўсе важныя падзеі рэлігійнага характару, звязаныя з усходнеславянскім абрадам. Грабарка мае вялікае значэнне для пілігрымаў, якія прыбываюць сюды на галоўнае свята Праабражэння Гасподняга. Вернікі здзяйсняюць паломніцтвы да гэтага месца, несучы зарочныя крыжы, якія сімвалізуюць малітву, падзяку, спадзяванне на лепшы лёс. Дзякуючы штодзённым малітвам манахінь, якія ўзносяцца да Спаса, тут за апошнія дзесяцігоддзі гэтае месца атрымала асаблівае значэнне і каштоўнасць для праваслаўных. На працягу соцень гадоў людзі ідуць на Святую Гару Грабарку. Самыя шматлікія паломніцтвы прыбываюць сюды на свята Праабражэння Гасподняга (18/19 жніўня). Паломнікі нясуць крыжы, малыя — індывідуальны, большыя нясуць групы ад грамад і ўстаноў. Паломнікі моляцца, на каленях тройчы абыходзяць царкву, затым спускаюцца да крыніцы. Цудоўная крыніца знаходзіцца ля падножжа гары. У ёй памыліся і з яе напіліся вады тыя, хто прыйшоў сюды з крыжам і малітвай аб выратаванні ў 1710 годзе. І па сённяшні дзень паломнікі абмываюць у ёй свае балючыя месцы, п'юць ваду з калодзежа і набіраюць яе дадому. Пастаяннымі рэлігійнымі святамі на Грабарцы з'яўляюцца Велікодныя пілігрымкі і свята Усіх тужлівых Радасць (6 лістапада). Людзі, аднак, не абмяжоўваюцца святамі. Кожны, хто адчувае патрэбу, можа прыйсці сюды ў любы дзень года, каб памаліцца і адпачыць духоўна. Варта таксама падкрэсліць, што падаецца на Грабарку ў пілігрымку шмат людзей іншых веравызнанняў, якія ў гэтым месцы хочуць памаліцца. Грабарка ў першую чаргу гэта месца святое, рэлігійнае, і таму абавязвае тут цішыня, спакой, задуменнасць, адпаведнае адзенне, годныя паводзіны.

Меркаванні гісторыкаў наконт найстарэйшай гісторыі Гары Грабаркі падзеленыя. Некаторыя спалучаюць яе з ушанаваннем іконы Спаса (Хрыста Збавіцеля), іншыя ўзнікненне святыні спалучаюць аж з пачаткам XVIII стагоддзя. Вядомая цудамі ікона Збаўцы, верагодна, знаходзілася ў недалёкім Мельніку. Іпацьеўскі летапіс паведамляў, што ў XIII стагоддзі маліўся перад ёю князь Даніла Галіцкі перад сваёй каранацыяй. Мясцовая традыцыя кажа пра тое, што культ іконы Збавіцеля ініцыявалі манахі. Ікона была вывезена і схавана ў Мельніцкай пушчы. Далейшы яе лёс невядомы. Гара Грабарка праслыла ў 1710 годзе, калі эпідэмія халеры касіла жыхароў навакольля Сямятыч. Адзін старац атрымаў у сне адкрыццё, што людзі могуць знайсці ратунак — уцячы ад эпідэміі на ўзвышак ва ўрочышчы Сумінsocшчына. Яны прыйшлі на гару з крыжам, набожнымі малітвамі за выратаванне і былі пачутыя. Каб падзякаваць Богу за цуд, тут была пабудавана першая драўляная Праабражэнская капліца. Не ведаем, хто яе пабудаваў ці як яна выглядала. На яе месцы ў 1789 годзе пабудавалі новы, большы храм — царкву Праабражэння. Да сёння гэта месца пакланення Хрысту Збавіцелю і зарочны храм — сімвал падзякі за цуд аздараўлення. У 1884 г. быў праведзены грунтоўны рамонт храма, у выніку якога была пабудаваная цалкам новая царква.



Ужо ў дзевятнаццатым стагоддзі свята Праабражэння Гасподняга на Гары Грабарцы было апісана ў «Гродзенскіх епархіяльных ведамасцях» як такое, куды прыходзілі тысячы паломнікаў не толькі праваслаўных, але і католікаў. Апрача драўляных праваслаўных крыжоў на Грабарцы ставіліся таксама каменныя крыжы (пачатак XX ст.), бетонныя, бетонныя пастаменты з чыгунным крыжам (40-я гады XX ст.). Некаторыя з іх маюць барэльефы, выразаныя ў камені або цэлыя чыгунныя (пачатак XX ст.).

Падчас Другой сусветнай вайны царква не пацярпела і не была разбурана, храм лічыўся могілкавым. Тады людзі на мясцовых могілках схавалі звон. А царкву ахінулі сосны. Царква была аднаўляная, рамантаваная, добраўпарадкаваная. У 1963 годзе былі завершаны іканапісныя працы ў царкве Праабражэння. Паліхромію пад кіраўніцтвам Адама Сталёны-Дабжанскага выканалі Ежы Навасельскі і Баляслаў Алешка.

Святую Гару Грабарку называюць Гарой крыжоў і малітвы. Кожны з многіх тысяч сабраных вакол царквы Праабражэння Гасподняга крыжоў прыносіцца з малітвай аб дапамозе ў хваробе, у цяжкія моманты, з просьбай аб супакоі душ памерлых. Ёсць таксама крыжы падзякі. Многія з іх упрыгожаны стужкамі, вянкамі або традыцыйным абрадавым ручніком. Некаторыя з іх ужо нарушаныя зубом часу, са слядамі агню. Надпісы на крыжах на царкоўнаславянскай мове, але ёсць ужо і па-польску абяцанні, малітвы. На многіх крыжах надпіс: Спасі і сохрані — Выратуй і захавай або НІКА (Пераможца). Сярод многіх крыжоў сімвалічны крыж, узведзеныя манахіняй Іларыяй — пляменніцай рускага пісьменніка Міхаіла Булгакава. На таблічцы, размешчанай на крыжы апошнія словы паміраючага пісьменніка: «Боже, прости меня!» У 2001 годзе навукоўцы з Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта паставілі крыж, прысвечаны Сяргею Булгакаву. Апрача традыцыі штогадовага паломніцтва ў свята Спаса ў жніўні, у траўні на Святой Гары збіраецца моладзь. У траўні 1980 года была праведзена Першая пасхальная Пілігрымка моладзі і, такім чынам, нарадзілася традыцыя моладзевага паломніцтва. Менавіта падчас першага паломніцтва маладыя людзі прызналі неабходнасць стварэння Брацтва праваслаўнай моладзі. Ігуменняй манастыра была тады адкрытая для моладзі ігумення Варвара. Пасля яе смерці ў 1986 годзе часткай кожнага пасхальнага паломніцтва моладзі з'яўляецца паніхіда над магілай ігумені. Грабарку наведалі, між іншым, патрыярх Канстанцінопальскі Варфаламей I, першаіерарх Рускай Праваслаўнай Царквы патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл, а ў 2016 годзе патрыярх Антыёхіі Іаанн X. На свята Праабражэння ў 2000 годзе манахі з Афона падаравалі манастыру копію цудатворнай іконы Іверскай Багародзіцы. Кожную сераду на вячэрні чытаецца акафіст перад гэтай іконай.

У 2010-2016 гады была праведзена дакладная рэканструкцыя дапаможнай царквы іконы Багародзіцы «Усіх тужлівых Радасці» (рэканструявалі лесвіцу, вырабы з дрэва, званіцу, падлогу, унутраныя сцены і хоры); выкананне гэтай працы стала магчымым дзякуючы набытым замежным фінансавым сродкам у рамках праекта «Усходне-славянская культурная спадчына — захаванне, аднаўленне, алічбоўка гістарычных цэркваў». Пасля рэканструкцыі царква 21 мая 2017 г. была ўрачыста асвечана мітрапалітам Савам у саслужэнні шматлікіх іерархаў і духавенства Польшчы і Украіны. Святую Гару Грабарку наведалі (у свята Праабражэння Гасподняга) дзейсныя прэзідэнты Польшчы — Браніслаў Камароўскі (2011, 2014) і Анджэй Дуда (2015).

У 1947 годзе на Святой Гары ўзнік першы пасляваенны праваслаўны жаночы манастыр святых Марфы і Марыі. Абавязкі настаяцелькі новага манастыра даверылі ігумені Марыі (Камстадыюс). У 1949 годзе на Грабарцы быў заснаваны незалежны прыход. Першым настаяцелем быў а. Яўсевій Ізмайлаў, манах з манастыра ў Яблачыне. Сястра Марыя (Сафія Няклюдава), якая нарадзілася ў 1874 г. як арыстакратка, хацела стаць манашкай. Аднак бацькі выбралі для яе іншы шлях. Пасля шлюбу з абруселым шведам Камстадыюсам хутка аўдавела. Пасля завяршэння курса сястры міласэрнасці пайшла на вайну, а затым працавала настаўніцай. У Пскоўскім манастыры стала манахіняй. Яна была старанна адукаваным чалавекам, валодала некалькімі мовамі, была перакладчыцай. На Грабарцы яна служыла да смерці ў 1949 годзе.

... Сястрыцы ўбачылі былі на Грабарцы драўляную царкву Праабражэння, могілкі і домік стаража. Узімку начавалі на званіцы або ў бліжэйшых гаспадароў. У 1950 годзе пачалося будаўніцтва новай царквы з келлямі для сясцёр. У 1956 г. была асвечана новая царква ў гонар іконы Божай Маці Усіх Тужлівых Радасць (Всех Скорбящих Радость). Першым сёстрам служыла яна не толькі як храм, але і манаскі дом. У 1980-я гады быў здадзены ў карыстанне новы манаскі дом з трапезнай царквой у гонар Успення Багародзіцы.

У 1995 годзе абавязкі ігуменні ўскладзены былі на самую маладую ў гісторыі манастыра сястру Ірміёнію (Шчур), якая выконвае гэты абавязак да сённяшняга дня. Яна ўнесла шмат змен духоўнага характару. Яе актыўнае стаўленне спрычыняецца да таго, што манастыр развіваецца, уводзіцца шмат змен і наваўвядзенняў. Змяніўся таксама склад манастыра. Даўней узрост сястрыц часта перавышаў шэсцьдзясят гадоў. Калісь толькі некалькі манахінь маглі пахваліцца вышэйшай адукацыяй. Сёння ўзрост большасці сясцёр не перавышае сарака гадоў, і амаль усе маюць вышэйшую адукацыю. Манахіні падтрымліваюць рэгулярныя кантакты з манастырамі ў Польшчы і за мяжой. Практычна ні адна з дэлегацый братніх Цэркваў, якія візітуюць Польшчу, не абмінае Святой Гары, што доказвае высокую значнасць гэтага месца. Грабарку наведваюць таксама тысячы паломнікаў, якія прыбываюць сюды, між іншым, на штогадовыя прыходскія святы.

Знешні выгляд манастыра і яго ваколіцы таксама змяніўся. Быў праведзены рамонт жылога доміка манахінь, дома паломніка, царквы Усіх тужлівых Радасць, доміка для духавенства. Былі дабудаваны гаспадарчыя прыбудовы. Супольнымі сіламі вернікаў і манахінь быў пастаўлены каменны мур для большай бяспекі жыхароў манастыра, а таксама каб сімвалізаваў ён закрыццё гэтага месца ад грахі свету. Камяні для пабудовы мура неслі вернікі падчас паломніцтваў. Была дабудавана каменная лесвіца, якая вядзе да галоўнага храма. Усе дарожкі ў межах Святой Гары пасдвечаныя. Над калодзежам, які стаіць побач крыніцы, узведзена капліца.

У 2017 годзе ў манастыры служыла 13 сястрыц, у тым ліку 8 манахінь.

(лук)

ISSN 0546-1960 02